# БАЙРАМ



## ТАТАРЫ
## НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

Падпісана да друку 5.04.9I г.
Тыраж 500 экз. Фармат 60 х 84 I/16
Ум. друк. арк. 3,72. Папера друк. № I. Зак. 39
Надрукавана на ратапрынце выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі
Мінск, вул. Ф. Скарыны, I5-а.

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК ТАТАРСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ "АЛЬ-КІТАБ" МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

№ 1, 1991 г.

## САЛЯМ АЛЕЙКУМ !

У дзень вялікага мусульманскага Свята Рамазан-Байрам і выхаду ў свет першага нумара квартальніка "Байрам" называем тут нашых добрых сяброў. Вялікую дапамогу татарскаму грамадска-культурнаму аб'яднанню Мінскай вобласці "Аль-Кітаб" аказалі Грамадска-палітычны цэнтр пры Мінскім абкоме КПБ, Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У.І. Леніна, высакародныя спадарыні і спадары Э. Аджывелі, Л. Акаловіч, А. Александровіч, Э. Асановіч, У. Атрошчанка, І. Афнагель, Г. Бабкін, М. Багдановіч, Р. Барадулін, М. Баркоўскі, Х. Басьюні, Л. Буджурава, В. Вайткевіч, Д. Гарнышэва, Г. Гліннік, А. Грыцкевіч, М. Джамілеў, А. Емяльянаў, М. Ермаловіч, Я. Звяруга, У. Зыль, А. Іваноў, Ш. Кайбулаеў, Л. Калядзінскі, С. Камілеў, Т. Канапацкая, Я. Карпінчык, Г. Кахано ўскі, С. Крукава, Ч. Кудаба, П. Кухта, Я. Лецка, С. Макаёнак, К. Мамак, Г. Маслыка, Г. Меметава, В. Несцяровіч, Г. Няхайчык, Б. Пазднякоў, Б. Путрык, М. Раманюк, П. Садоўскі, В. Салаўёў, В. Скалабан, А. Спрынчан, Ю. Сцяфанаў, К. Тарасаў, М. Ткачоў, У. Умераў, Е. Фешчанка, Ф. Фаізаў, А. Хаджар, І. Хаўратовіч, В. Хацкевіч, К. Цвірка, М. Чарняўскі, А. Чуланаў, М. Шавыркін, В. і У. Юшкевічы, А. Якубоўскі, светлай памяці Ф. Янкоўскі.

Прыміце татарскі рахмат /дзякуй/ і глыбокую пашану.

Праўленне таварыства "Аль-Кітаб".

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

## П Р А Д М О В А

На зямлі высакароднага, зычлівага і працавітага народа — беларусаў жыве жменька татараў. Іх так мала, што ў звычайных даведніках колькасць не пазначаецца, бо складае каля 0,12% ад насельніцтва Беларусі. Калі ж палічыць, колькі засталося нашчадкаў татараў, што пасяліліся на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ў канцы XIУ стагоддзя, то іх яшчэ менш. Прайшло ўжо амаль 600 гадоў, як мы жывём воддаль ад сваёй былой радзімы — Паволжа і Крыма, але мы не выракліся свае веры — Ісламу і свайго імя. Часам ад паволжскіх або крымскіх татараў можна пачуць папрок, што мы не ведаем татарскай мовы. Мы карыстаемся даўно нам роднай беларускай мовай, гаворым на рускай мове, разумеем польскую, украінскую. А галоўнае, мы выхоўваем сваіх дзяцей сумленнымі і працавітымі грамадзянамі, якія маюць гонар называцца татарамі ў любых абставінах. А што тычыцца татарскай мовы, то прыйдзе час і ў нас будуць свае татарскія школы.

З ХУІ стагоддзя вядомы татарскія кнігі Аль-Кітабы, напісаныя на тагачаснай беларускай мове арабскімі літарамі. Яны перапісваліся, дапаўняліся і былі ў кожнай татарскай хаце. Людзі старэйшага пакалення, якія нарадзіліся ў мінулым стагоддзі ці ў пачатку гэтага стагоддзя, паміж сабою ліставаліся пры дапамозе арабскай графікі і не дзеля таго, каб утаіць свае сакрэты, а каб не забыць сваё пісьмо, бо такімі ж літарамі напісаны святыя мусульманскія кнігі — Кур'ан і Хамаіл.

У Заходняй Беларусі, якая да 1939 г. была ў складзе Польшчы, выдаваліся татарскі штогоднік, каляндар і квартальнікі на польскай мове. За 70 гадоў ва Усходняй і 50 гадоў у Заходняй

Беларусі улады рабілі усё, каб татары-мусульмане закінулі сваю веру, засталіся людзі, якім хочацца адрадзіць веру дзядоў-прадзедаў і выхоўваць дзетак у старых шаноўных татарскіх традыцыях.

Ініцыятыўная група татараў з Мінскага грамадска-культурнага аб'яднання "Аль-Кітаб" пры Мінскім абласным аддзяленні Фонду Культуры спрабуе пачаць выданне квартальніка "Байрам". Пра што будзем пісаць? Пра гісторыю і падзеі, да якіх дачыніліся беларускія татары, пра асновы Ісламу, пра даследчыкаў гісторыі і культуры татараў, пра заняткі і рамёствы, пра жыццё татараў у Татарстане, пра крымскіх, сібірскіх, астраханскіх, пра родных і блізкіх нам літоўскіх і польскіх татараў. Мяркуем друкаваць слоўнік казанскататарскіх і крымскататарскіх найбольш ужывальных слоў і выразаў. Некалькі старонак адводзім на артыкулы пра татарскую кухню, пра нацыянальныя песні і танцы.

У нашай ініцыятыўнай групе пакуль што няма прафесійнага журналіста, таму просім прабачэння у чытачоў за магчымыя хібы. Збіраемся апублікаваць у другім нумары дасланыя вамі матэрыялы, спадзяемся што новыя татарскія сілы і нашы знчліўцы-беларусы дапамогуць нам у выдавецкай справе, што наш квартальнік стане цікавым і патрэбным выданнем. Вашы допісы і лісты шліце на адрас: 220090, г. Мінск, 90 Лагойскі тракт, д. 27, кв. 77

Якубоўскаму Якубу.



## БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ: МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

З'яўленне татараў на тэрыторыі сучаснай Беларусі вучоныя тлумачаць па-рознаму. Але, на нашу думку, найбольш пераканальнае меркаванне прафесара Пецярбургскага універсітэта, нашага земляка з Навагрудчыны Антона Мухлінскага. У кнізе "Исследование о происхождении и состоянии литовских татар" /Спб., 1857 г./ ён піша: "Татарскае насельніцтва узнікла... з трох элементаў: 1/ аселых наёмных і саюзных воінаў татарскіх ордаў; 2/ з улусаў, што трапілі у палон і прыгнаны Вітаўтам, і, нарэшце, 3/ з выхадцаў з Залатой Арды і Крыма, што, стаміўшыся ад нязгоды у сваёй айчыне, самі добраахвотна перасяліліся у Літву".

Што ж да часу перасялення татараў на Беларусь, дык амаль усе вучоныя лічаць, што татары з'явіліся тут к пачатку XIУ стагоддзя. Так, акадэмік Я.Ф. Карскі у працы "Культурныя заваёвы рускай мовы у даўнія часы на заходняй ускраіне яе вобласці" і у "Працах па беларускай і іншых славянскіх мовах" /Мінск, 1962 г./ пісаў, што "татары-магаметане жывуць цяпер асобнымі астраўкамі у розных месцах Беларусі, напрыклад, у Вільні, Мінску і іншых гарадах і мястэчках. З'явіліся яны тут ужо з пачатку XIУ стагоддзя, некаторыя добраахвотна для барацьбы з крыжаносцамі; часткова яны склаліся з розных палонных крымскіх і іншых татараў".

Спрэчным застаецца пытанне пра колькасць татараў, што насялялі край у XIУ—XУI стагоддзях. Адны вучоныя /В.Д. Смірноў, В.С. Цітоў і іншыя/ лічаць, што татараў было каля 100—200 тысяч чалавек, а іншыя — што не болей за 40 тысяч. У 1897 годзе беларускіх татараў у Паўночна-Заходнім краі было не болей за 14 тысяч чалавек. Паводле перапісу 1989 года на тэрыторыі Беларусі жыло 12 550 татараў. Частка нашых супляменнікаў жыве у Літве і Польшчы. Залежна ад таго, дзе яны жывуць, татараў называюць

беларускімі, польскімі і літоўскімі, хоць усе яны гавораць пабеларуску і значная частка іх лічаць гэтую мову роднай. Таму нам здаецца больш правільным карыстацца тэрмінам "беларускія татары". Менш устойлівай аказалася назва "ліпкоўскія татары", якая існавала яшчэ ў 18 стагоддзі, але цяпер амаль не сустракаецца.

Узаемаадносіны паміж беларускімі татарамі і беларусамі амаль заўсёды былі мірныя. Гісторыкі адзначаюць, што беларускія татары настолькі зжыліся з мясцовым насельніцтвам, што часта нават выступалі супраць сваіх адзінаверцаў. Так, прафесар А. Мухлінскі пісаў: "У актах Літоўскай метрыкі захаваўся ў перакладзе цікавы адказ літоўскіх татараў таго часу, які яны далі сваім адзінаверцам, што займаліся рабункам на літоўскіх межах: "Ні бог, ні прарок, — казалі яны, — не дазваляюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за драпежнікаў і шаблямі нашымі забіваем рабаўнікоў, а не братоў нашых. Аставайцеся за Волгаю, пакуль іншыя вас не выжывуць, бо мы ля Вані /Вільні/ будзем кроў праліваць за літоўцаў, якія лічаць нас братамі сваімі"/.

Сяброўства і ўзаемадапамога беларусаў і беларускіх татараў мацнелі і ў супольнай барацьбе супраць знешніх ворагаў. Так беларускія татары актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе супраць Тэўтонскага ордэна. Пасля падпісання ваеннага дагавору ў Брэсце /1409 г./ паміж Вітаўтам і сынам Тахтамыша ханам Джэлал эль-Дзінам, якому падпарадкоўвалася размешчанае ў Вялікім княстве Літоўскім татарскае войска, татары прымалі чынны ўдзел у вайне з Ордэнам у 1409--1411 гг., асабліва ў Грунвальдскай бітве. На ўзгорках Грунвальда разам з беларусамі, палякамі і літоўцамі біліся з крыжакамі каля 40 тысяч татараў. У ордэнскіх хроніках запісана, што вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген загінуў у бітве ад рукі татарскага хана Багардзіна.



Татарскія пасяленцы на Беларусі доўгі час захоўвалі сваю сацыяльна-племянную арганізацыю, традыцыйныя звычаі, абрады, вераванні і адрозніваліся ад мясцовага насельніцтва асаблівасцямі культуры. Па сацыяльна-прававым становішчы большую частку беларускіх татараў складалі ваеннаслужылыя, юрыдычна прыраўнаваныя да шляхты. Яны атрымлівалі за службу зямлю, якая заставалася ў спадчынным карыстанні. Перад першай сусветнай вайной на рускай службе знаходзіліся 18 татараў-генералаў: Халіль Базарэўскі, Канстанцін Біцютка, Тамерлан Беляк, Стэфан Вільчынскі, Канстанцін Крычынскі, Леон Крычынскі, Аляксандр Мількоўскі, Абу Талеб Мухля, Юзэф Палтаржыцкі, Аляксандр Рамановіч, Стэфан Сабалеўскі, Мацей Сулькевіч, Аляксандр Талькоўскі, Аляксандр Туган-Барануоўскі, Ян Туган-Барануоўскі, Якуб Юзэфовіч, Юзэф Якубоўскі, Гіпаліт Янушэўскі. Палкоўнікаў, маёраў і малодшых афіцэраў былі сотні.

У выніку першай сусветнай вайны адзіны народ — беларускія татары быў разарваны. Частка /каля 6 тысяч/ аказалася ў межах Польшчы, каля 1 тысячы — у Літве, каля 7 тысяч — у БССР. У Польшчы ў сейме і сенаце былі замацаваны за татарамі 3 пасады і самі татары абіралі сваіх дэпутатаў. Дзейнічалі 14 мячэцей, быў створаны культурна-асветніцкі саюз татараў Польшчы. Ён выдаваў "Татарскі штогоднік", "Татарскае жыццё" і "Ісламскі агляд", меў свой архіў і музей у Вільні. Было надрукавана амаль 500 артыкулаў пра татараў. І цяпер, калі ў Польшчы жыве да 3 тысяч мусульман, дзейнічаюць 3 мячэці /плануецца будаўніцтва яшчэ трох/, выдаецца татарскі квартальнік.

Жорсткія, цяжкія гады сталінскіх рэпрэсій не абышлі і наш народ. Многія татары Заходняй Беларусі, бачучы, што іх можа напаткаць лёс крымскіх татараў, з'ехалі адсюль у Польшчу, некаторыя пасля эмігравалі ў Амерыку, Аўстралію, краіны Заходняй Еўропы. Сярод іх было шмат інтэлігенцыі, духоўных асоб.

Нацыянальная культура беларускіх татараў, якая захоўвалася на працягу многіх стагоддзяў, занядала за гады савецкай улады. Руйнаваліся, закрываліся мячэці, забываліся традыцыі. На пальцах адной рукі можна пералічыць публікацыі пра татараў Савецкай Беларусі.

Сёння мы не можам больш мірыцца са знішчэннем культуры нашага народа. У Мінску і Гродна на сходах прадстаўнікоў беларускіх татараў, што праходзілі ў 1989 годзе пад эгідай Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры, створана Мінскае і Гродзенскае абласныя татарскія грамадска-культурныя аб"яднанні, якія атрымалі назву "Аль-Кітаб" у Мінску і "Кітаб" у Гродне. У аб'яднаннях створаны камісіі па гісторыі, культуры, па рабоце сярод моладзі, па пытаннях рэлігіі, міласэрнасці, умацавання сувязей з татарамі, якія жывуць у іншых месцах, у тым ліку і за мяжой. Нам важна ведаць, чым жыве наш народ, што яго хвалюе, у якім стане нашы мячэці, помнікі культуры і г.д. Вырашана наладзіць цеснае супрацоўніцтва з грамадскімі татарскімі арганізацыямі з іншых гарадоў Савецкага Саюза і за мяжой, пачаць падрыхтоўку да юбілею — 600-годдзя пасялення татараў на Беларусі, у Літве і Польшчы.

Таварыства "Аль-Кітаб" звярнулася да Міністэрства культуры БССР, Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры з просьбай забяспечыць ахову помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускіх татараў, надаць статус помнікаў драўляным мячэцям, што захаваліся ў Даўбучышках, Лоўчыцах і Навагрудку, іх аднаўленне і рэстаўрацыю. Абшчына татараў-мусульман, створаная ў Мінску, паставіла перад гарадскімі ўладамі пытанне пра будаўніцтва у горадзе новай мячэці замест разбуранай пасля Вялікай Айчыннай вайны.



Зона асаблівай увагі аб'яднання — татарскія мізары /могілкі/, дзе пахаваны нашы продкі. З дапамогай моладзі ў мінулым годзе праведзены два суботнікі па добраўпарадкаванні мізараў. Удзельнікі Дня памяці продкаў, прысвечанага пачатку мусульманскага посту /ураза/ і свяшчэннага месяца Рамазана, сабраўшыся ў сакавіку мінулага года на мінскім мізары на мітынг, асудзілі гвалтоўнае знішчэнне помнікаў гісторыі і культуры беларускіх татараў — мізару і мячэці. У прынятым звароце да выканкама Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры БССР гаварылася пра неабходнасць аб"явіць татарскія могілкі зонай гістарычнага запаведніка, узяць яго пад ахову; пабудаваць агульны помнік людзям, чые магілы знішчаны, — мусульманскі храм-мячэць. Добра б было таксама пабудаваць у гэтай гістарычнай зоне школу /медрэсэ/,музей, гасцёўню, нацыянальную кавярню і іншыя установы беларускіх татараў.

Мы прапанавалі рэспубліканскім выдавецтвам уключыць у планы публікацыі кніг аб беларускіх татарах, а таксама гістарычных помнікаў татарскай пісьменнасці на беларускай мове /кітабаў/. На прапанову адгукнулася пакуль што толькі выдавецтва "Полымя". У 1992 г. у серыі "Беларусь — наш родны край" выйдзе кніжка і пра беларускіх татараў.

Кожную пятніцу у памяшканні грамадска-палітычнага цэнтра па вул. Кастрычніцкая, 5 праходзяць заняткі па вывучэнню татарскай мовы, арабскай пісьменнасці, адбываюцца лекцыі, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Татары мараць выпусціць сваё перыядычнае выданне.

Мы заклікаем усіх татараў і прыхільнікаў татарскай культуры стаць актыўнымі даследчыкамі свайго мінулага, збіраць і запісваць свае легенды, іншыя формы фальклору, рабіць апісанні звычаяў, якія бытуюць у штодзённым жыцці і у рэлігійных абрадах.

Неабходна збіраць экспанаты для будучага музея і выставак, у тым ліку — узоры фамільных гербаў, пячатак і іншых геральдычных знакаў. Кожны такі прадмет і дакумент стане каштоўным укладам у скарбніцу нашай нацыянальнай культуры.

Для правядзення ўсіх гэтых мерапрыемстваў, уключаючы адукацыю моладзі, будаўніцтва і рэстаўрацыю мячэцяў, музеяў, спатрэбяцца немалыя матэрыяльныя сродкі, якія мы спадзяемся сабраць у нашых суайчыннікаў, прыватных асоб, прадпрыемстваў і устаноў. Таму звяртаемся да ўсіх, каго цікавяць, клапоцяць нашы сённяшнія справы і планы: калі ласка, дапамажыце нам, чым можаце. Просім грашовыя ахвяраванні перасылаць на рахунак № 702204 Белжылсацбанка г. Мінска з прыпіскай "Фонд Мінскага татарскага аб'яднання "Аль-Кітаб".

## ВЫДАТНЫ СЫН КРЫМСКАТАТАРСКАГА НАРОДА

У гэтым годзе ў Крыме з 18 да 23 сакавіка будзе ўрачыстасць, прысвечаная 140-годдзю з дня нараджэння выдатнага сына крымскататарскага народа Ісмаіла Гаспрынскага.

Савецкія людзі нічога не чулі, а большасць з іх і сёння не ведае пра гэтага чалавека. Ісмаіл Гаспрынскі нарадзіўся ў 1851 годзе ў сям'і павятовага чыноўніка мырзы /шляхціца/ Мустафы. Скончыў пачатковую школу, а потым — ваенную гімназію ў Маскве. Некаторы час жыў у сям'і вядомага публіцыста, літаратурнага крытыка і выдаўца М.Н. Каткова. Гаспрынскі пазнаёміўся са знакамітымі пісьменнікамі, паэтамі, грамадскімі дзеячамі, якія бывалі ў доме Каткова /ён рэдагаваў часопіс "Русский вестник" і газету "Московские ведомости"/. Катков паходзіў з сям'і дробнага чыноўніка і першую палавіну жыцця перабіваўся ў беднасці. Як было заведзена ў тыя часы, інтэлігентныя людзі бралі ў свае сем'і дзяцей "инородцев" на поўнае утрыманне, каб выхаваць у іх прынцыпах пад-



данасці "вере, царю и отечеству". Апякун Ісмаіла Гаспрынскага ў маладосці быў даволі ліберальным чалавекам, але з цягам часу зрабіўся такім ваяўнічым русіфікатарам, што ўсур'ёз прапанаваў, каб у Расіі багаслужэнне ў касцёлах і лютаранскіх кірхах вялося толькі па-руску. Зразумела, што ў сям'і Каткова не было і думкі развіваць крымскататарскую мову і культуру. Можа, насуперак русіфікацыі малады Ісмаіл Гаспрынскі і вырашыў паслужыць свайму татарскаму народу.

Пасля сканчэння ваеннай гімназіі Ісмаіл быў настаўнікам рускай славеснасці ў медрэсе /вышэйшая духоўная школа мусульман/ у Бахчысараі. Для ўдасканалення ведаў Гаспрынскі паехаў за мяжу. Пабываў у Стамбуле, Вене, Мюнхене, Штутгарце. Цікавіўся, як пастаўлена тут народная асвета. У Парыжы ён пазнаёміўся з рускім пісьменнікам І.С. Тургеневым, стаў яго сакратаром і перапісваў рукапісы каб здаваць у друкарню /тады яшчэ не было машынак/. Адначасова Гаспрынскі як вольны слухач наведваў Сарбону, дзе слухаў лекцыі па палітычным і сацыяльным становішчы Заходняй Еўропы, па гісторыі Старажытнага часу і Сярэдніх вякоў. Высвятляў прычыны адставання краін Усходу ад заходняй цывілізацыі з яе поспехамі ў індустрыі. Паглыбляў свае веды ў французскай мове, вывучаў прамысловасць, сельскую гаспадарку /прыродныя умовы Крыма шмат у чым нагадваюць умовы Францыі/, наведваў гарады і сельскія паселішчы гэтай краіны, каб лепш уведаць побыт людзей, работу асветных устаноў.

У 1876 г. Ісмаіл Гаспрынскі вярнуўся ў Крым, уладкаваўся настаўнікам рускай славеснасці ў медрэсе ў Бахчысараі. З гэтай пары пачынаецца яго актыўная дзейнасць як пісьменніка, публіцыста, педагога-метадыста. Адолеўшы вялікія перашкоды, ён закупіў друкарскія машыны, стварыў арабскія газетныя шрыфты і 30 красавіка 1883 г. выпусціў 1-ы нумар газеты "Тэрджыман" /"Пераклад-

чык"/, прысвечаны I00-годдзю далучэння Крыма да Расіі. Выхад першай татарскай газеты прывіталі ўсе цюркамоўныя і мусульманскія народы Расіі . Газета "Тэрджыман" на татарскай і рускай мовах выходзіла на працягу 35 гадоў, з якіх 3I год рэдактарам быў Ісмаіл Гаспрынскі, а з II верасня I9I4 г., калі ён памёр, справу бацькі прадоўжыў яго сын Рэфат.

Адзін пералік таго, што было надрукавана ў газеце "Тэрджыман" — публіцыстычныя артыкулы і навуковыя працы — Ісмаіла Гаспрынскага ўражвае. Яго артыкул "Мусульманства Расіі" /напісаны ў I88I г./ выклікаў радаснае ажыўленне сярод мусульман імперыі і востры непакой апантаных русіфікатараў і паліцэйскіх чыноўнікаў.

Уплыў Гаспрынскага — грамадскага дзеяча быў надзвычай вялікі. Ён прыязджаў у Пецярбург, Маскву, Казань, Ніжні Ноўгарад, Уфу, Арэнбург, Баку, Тыфліс, Самарканд, Ташкент, Бухару, Хіву і інш., усюды сустракаўся з перадавой грамадскасцю. Дзейнасць Ісмаіла Гаспрынскага ахапіла ўвесь мусульманскі свет. Ён пабываў у многіх гарадах Турцыі, а таксама ў Каіры, Багдадзе, ў Індыі, яго газету чыталі ў краінах Афрыкі, Азіі, нават у далёкай Інданезіі.

Самааддана дапамагала і падтрымлівала Ісмаіла Гаспрынскага яго жонка Зухра-ханум. Яна вяла шырачэзную перапіску з аўтарамі допісаў у "Тэрджыман", адпраўляла газету ў сотні гарадоў і дзесяткі краін свету. У Гаспрынскіх было шасцёра дзяцей — тры сыны і тры дачкі. Зухра-ханум памерла зусім яшчэ маладая — у I902 г.

Хочацца сказаць вось што: у I929—I934 гг. я вучыўся ў Бахчысарайскай фабрычна-заводскай дзесяцігодцы. Наша школа /колішняя гімназія/ месцілася непадалёку Ханскага палаца, а далей, у бок Салачыка, стаяў дом Гаспрынскага і двухпавярховы будынак рэдакцыі і друкарні газеты "Тэрджыман", але яны выкарыстоўваліся як вытворчыя карпусы. У тыя гады настаўнікамі ў нас былі вядомыя дзеячы навукі і культуры крымскататарскага народа. Яны добра ведалі Гаспрынскага і супрацоўнічалі з ім да рэвалюцыі. Чаму яны нічога не казалі нам пра самага славутага татарскага асветніка? Відаць таму, што баяліся. Такі быў час. Хадзілі чуткі, што ў канцы жыцця Ісмаіл Гаспрынскі быў у прыязных адносінах з некаторымі эсэрамі, хаця сам прытрымліваўся рэфармісцкіх метадаў развіцця грамадства. А можа новыя правіцелі палічылі Ісмаіла Гаспрынскага небяспечным працаўнікам "единой и неделимой России", хоць на словах бальшавікі былі за права народаў на поўную свабоду аж да адддзялення. У бліжэйшыя часы даследчыкі, відаць, адкажуць, дзе тут праўда.



Для правядзення навукова-даследчай канферэнцыі, прысвечанай I40-й гадавіне з дня нараджэння Ісмаіла Гаспрынскага, створана спецыяльная камісія. На канферэнцыю запрошаны вучоныя і даследчыкі дзейнасці Ісмаіла Гаспрынскага з усіх куткоў Савецкага Саюза — I30 чалавек і 50 прадстаўнікоў навукі і культуры з замежных краін. На юбілейнай канферэнцыі будуць дзейнічаць тры секцыі: "Ісмаіл Гаспрынскі і Расія", "Ісмаіл Гаспрынскі і Усход", "Ісмаіл Гаспрынскі і Захад".

У праграму юбілейных урачыстасцей уключаны фестываль музыкі і фальклору крымскіх татараў у гарадах і сёлах Крыма. У фестывалі будуць удзельнічаць Дзяржаўны ансамбль крымскіх татараў "Хайтарма", ансамбль "Зефане", самадзейныя калектывы. У дні юбілею будуць экспанавацца кнігі пісьменнікаў і карціны мастакоў. Удзельнікі канферэнцыі наведаюць памятныя мясціны ў Бахчысараі і Сімферопалі. У гонар Гаспрынскага будуць устаноўлены помнікі, адчынены мемарыяльныя дошкі і інш. Імя і дзейнасць Ісмаіла Гаспрынскага дарагія для татарскага народа. І шанаваць іх давайце і ў час юбілею, і заўжды.

## МОВУ ТАТАРСКУЮ ЗАБЫЛІ, АЛЕ ГОДНАСЦЬ МУСУЛЬМАНСКУЮ НЕ СТРАЦІЛІ

/З брашуры Ісмаіла Гаспрынскага "Русское мусульманство", апублікаванай у 1881 г./

... Што да мусульманаў, дык яны паміж сабою зусім не гавораць па-руску, за вельмі рэдкімі выключэннямі. Прыклад вельмі павучальны, які даказвае: племянную устойлівасць татараў вызначаюць літоўскія татары*, рассыпаныя ледзьве не ў дзесяці губернях Паўднёва-Заходняга і Прывіслінскага краю ў ліку васьмі—дзесяці тысяч душ.

У 1880 г., наведаўшы некаторыя губерні Літвы для больш блізкага вывучэння ўплыву еўрапейскай культуры на азіятцаў, мы назіралі жыццё-быццё вясковых і гарадскіх татараў Літвы. Трэба заўважыць, што цяперашнія літоўскія мусульмане — нашчадкі тых ордаў татарскіх уланаў, якіх наймалі літоўскія князі для барацьбы з Польшчай як ліхіх наезнікаў і верных целаахоўнікаў. Дзякуючы шырокім ільготам з правам жаніцьбы з ліцвінкамі, частка гэтага воінства пасялілася ў Літве. З прычыны таго, што жонкі пасяленцаў-татараў не разумелі зусім па-татарску, ужо першае пакаленне літоўскіх татарчукоў гаварыла больш мовай маці, г.зн. па-літоўску, чым па-татарску, так што праз некалькі пакаленняў татарская мова знікла з ужытку і мова літоўская стала нацыянальнай мовай тамашніх татараў.

Нягледзячы, аднак, на гэткую выключную ўмову і крайнюю раскіданасць пасяленняў, літоўскія мусульмане захоўвалі Іслам як рэлігію, тым і традыцыі — як татары. Нягледзячы на мноства надзвычай неспрыяльных умоў мясцовасці і жыцця, яны перажылі некалькі стагоддзяў, захаваўшы сваю рэлігію і ўпарта адстойваючы сваю годнасць. У іх такія ж мячэці, такія ж абрады, як і ў іншых

* Літоўскія татары, літоўская мова, ліцвінкі трэба разумець, што гэта беларускія татары, беларуская мова.



мусульманаў. Праўда, з-за недахопу сродкаў, яны не маюць мектэбаў і медрэсе, але ў іх існуюць вандроўныя настаўнікі — ходжы, якія пераходзяць з адной мясцовасці ў другую, дзе трэба і дзе бацькі жадаюць навучаць дзяцей Ісламу. Кожная сям"я татараў мае неабходныя свяшчэнныя кнігі з перакладамі арабскага тэксту на польска-літоўскую мову. Увайшоўшы ў дом, у хату літоўскага мусульманіна, вы абавязкова заўважыце на сценах рамкі з прыгожа напісанымі і размаляванымі выслоўямі з Кур'ана і вензелевымі імёнамі Алаха, прарока Мухамеда, імамаў Алі, Амара і іншых. Словам, падарожжа па Літве пераканала мяне, што Іслам амаль непераможны і што вераадступніцтва сярод літоўскіх татараў — з"ява гэткая ж рэдкая, як, напрыклад, у Крыме.

Аднак, на першы погляд, літоўскія мусульмане зусім не падобныя на такіх у іншых краінах. Па-першае, большасць з іх больш ці менш адукаваныя і вельмі многія служаць на ваеннай і цывільнай службе, карыстаючыся даверам адміністрацыі як нейтральны, надзейны элемент краю**. Так, мне давялося наведаць адну татарскую вёску паблізу Вільні, дзе ўсе жыхары маюць той ці іншы ордэн і ўсе — маёры або паручнікі і губернскія сакратары ў адстаўцы.

... Звычайна літоўскія татары носяць руска-польскія імёны і прозвішчы ад татарскага кораня — як Ахматовіч, Асановіч, Селімовіч і іншыя. Увогуле, заўважым мімаходзь, літоўскія татары — найлепшыя татары Расіі і стаяць на чале мусульманства па культуры і адукаванасці. Было б вельмі пажадана залучыць іх да дзейнасці сярод астатніх мусульманаў Расіі. Па службе ім можна было даць некаторыя льготы, каб аблегчыць гэта, і я думаю, іх культурнае жыццё з'явілася б добрым прыкладам для многіх іншых мусульманаў.

** Татары прымалі чынны ўдзел у паўстаннях пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі і К. Каліноўскага.

سورة الفاتحة سبع آيات

بسم الله الرحمن الرحيم ۝

الحمد لله رب العلمين ۝ الرحمن الرحيم ۝

ملك يوم الدين ۝ اياك نعبد واياك

نستعين ۝ اهدنا الصراط المستقيم ۝

صراط الذين انعمت عليهم ○ غير المغضوب

عليهم ولا الضالين ۝





# К У Р ' А Н

## Аль-Фаціха

I. У імя Алаха, Міласцівага, Міласэрнага.

2. Уся пахвала належыць Алаху, Уладыку усяго свету.

3. Літасціваму, Міласэрнаму.

4. Уладару Суднага Дня.

5. Табе аднаму мы пакланяемся і у Цябе аднаго просім дапамогі.

6. Скіруй нас на шлях праведны.

7. Шлях тых, каго Ты абдарыў Сваімі дабротамі, тых, хто не наклікаў гневу Твайго, тых, хто не зблудзіў.

## Аль-Бакара

1. У імя Алаха, Літасцівага, Міласэрнага.
2. Аліф. Лам. Мім.
3. Гэтая кніга самая дасканалая, у ёй нельга сумнявацца, яна ёсць павучанне праведнікам,
4. Якія вераць у нябачанае і не парушаюць малітвы, і ахвяруюць з таго, чым Мы іх надзялілі.
5. І якія вераць у тое, што адкрыта Табе, і ў тое, што было адкрыта да Цябе, і цвёрда вераць у тое, што прыйдзе потым.
6. Гэта тыя, што кіруюцца павучаннямі свайго Уладыкі, і гэта тыя, што даб'юцца поспеху.
7. Тыя, што не павербылі, — для іх усё адно, перасцерагаеш Ты іх ці не перасцерагаеш — яны не павераць.
8. Алах наклаў пячаць на іх сэрцы і на іх вушы, і плёнка ляжыць на вачах іх, і іх лёс — вялікая кара

Руку: 2

9. І сярод людзей ёсць такія, якія гавораць: "Мы верым у Алаха і ў апошні дзень", а між тым, яны не вераць зусім.
10. Яны шукаюць спосабу ашукаць Алаха і тых, што вераць, але не ашукаюць нікога, а толькі сябе, але гэтага яны не разумеюць.
11. Немач уелася ў сэрцы іх, і Алах павялічыў немач іх; і лёс іх — цяжкая кара ім з-за маны іх.
12. І калі ім сказалі: "Не рабіце смуты на зямлі", яны гавораць "Мы толькі ўкараняем мір".



13. Сцеражыся! Сапраўды, гэта тыя, што твораць смуту, але гэтага яны не разумеюць.
14. І калі сказалі ім: "Верце, як іншыя вераць", яны гавораць: "Хіба можам мы верыць, як вераць дурні". Сцеражыцеся. Гэта яны дурні, але яны не ведаюць.
15. І калі яны сустракаюць тых, што вераць, яны гавораць: "Мы верым", але калі яны сам-на-сам са сваімі верхаводамі, яны гавораць: "Вядома, мы з вамі, мы толькі прыкідваемся".
16. Алах пакарае за іх прыкідванне, і па волі Яго яны будуць блукаць, як сляпыя, у беззаконні.
17. Гэта тыя, што замянілі павучанне на аблуду, але іх мена не прынесла ім карысці, і яны пазбаўлены сапраўднага павучання.
18. Яны сталі падобныя на чалавека, што распаліў агонь, і, калі ён асвятліў усё вакол, Алах забраў у іх святло і пакінуў іх у глыбокай цемры; яны не бачаць.
19. Або падобна гэта моцнаму дажджу, які ліе з хмар, дзе глыбокая цемра, і гром, і маланка; яны затыкаюць пальцамі вушы свае ад удараў грому, баючыся смерці, і Алах апаноўвае няверных.
20. Маланка ледзь не пазбаўляе іх зроку; калі яна свеціць у іх бок, яны ідуць да яе; калі ж ахоплівае іх цемра, яны стаяць без руху. І, калі б на тое воля Алаха, Ён мог бы пазбавіць іх слыху і зроку; сапраўды, Алах мае ўладу рабіць усё, што захоча.
21. О, вы, людзі, пакланяйцеся Уладыку нашаму, які стварыў Вас, і тых, хто быў раней за Вас, каб Вы маглі стаць праведнымі.

22. Таму, Хто зрабіў зямлю, як пасцель, для вас, а неба
зрабіў дахам, праліў ваду з воблакаў і праз гэта
нарабіў пладоў для вашага харчавання. Таму не ства-
райце роўных Алаху, раз вы не ведаеце.
23. І калі вы сумняваецеся ў тым, што вы пасланы
слугу Нашаму, не стварайце раздзел, падобны гэтаму,
а звярніцеся да вашых памочнікаў, а не да Алаха,
калі вы праўдзівыя.
24. А калі вы гэтага не зробіце — і ніколі вы гэтага
не зробіце — то сцеражыцеся Агню, паліва для якога —
людзі і камяні, якія прыгатаваны для няверных.
25. І падай добрую вестку тым, што вераць і твораць
добрыя справы, што для іх прыгатаваны сады, па якіх
цякуць ручаі. Кожны раз, калі ім дадуць пакаштаваць
пладоў іх, яны скажуць: "Гэта тое, што нам давалі
раней", і дары, падобныя адзін на адзін, будуць
прынесены ім.
І будуць у іх там сяброўкі
прачыстыя, і будуць яны там жыць.
26. Алах не грэбуе наглядными прыкладамі, малымі,
як камар, або яшчэ меншымі. Вернікі ведаюць,
што гэта ісціна, якая зыходзіць ад Уладыкі іх,
а няверныкі гавораць: "Што мае на ўвазе Алах
пад такімі прыкладамі?" Многіх праз гэта асуджае Ён
за памылку, а многіх Ён павучае: і нікога, хто
памыліўся, праз гэта Ён не асуджае, апрача непакорных.
27. Тых, хто парушыў запавет Алаха, пасля таго,
як устанавілі яго, і раз'ядноўвае тое, што Алах загадаў
злучыць, і твораць смуту на зямлі; тыя самі маюць
страту.



28. Як можаце вы не верыць у Алаха? Калі вы не
мелі жыцця, Ён даравау вам жыццё, а потым Ён пашле
вас на смерць, а затым верне вас да жыцця і тады
Яму вы будзеце вернуты.
29. Гэта Ён стварыў для вас усё, што ёсць на зямлі;
затым Ён скіраваў позірк на нябёсы і ўдасканаліў іх,
зрабіўшы сем нябес, і Ён ведае усе ісьнае.

Руку: 4

30. І калі Гасподзь твой сказаў ангелам: "Я хачу паставіць
намеснікаў на зямлі", яны сказалі: "Паставіш Ты такога,
што зробіць смуту на ёй і праліе кроў? — і мы славім
Цябе Тваей славай і ўзносім Тваю святасць". Ён адказаў:
"Я ведаю тое, чаго вы не ведаеце".
31. І Ён навучыў Адама усім імёнам, потым Ён паставіў
уладальнікаў гэтых імён перад ангеламі і сказаў:
"Назавіце Мне іх імёны, калі ваша праўда.
32. Яны сказалі: "Ты святы. Няма у нас іншых ведаў, апрача
тых, чаму Ты навучыў нас; сапраўды, Ты ёсць Усяведа і
Мудрэц".
33. Ён сказаў: "О, Адам, назаві ім іх імёны", і калі ён
назваў ім іх імёны, Ён сказаў: "Ці не сказаў Я вам, што
Я ведаю тайны неба і зямлі, і Я ведаю, што вы хаваеце
і чаго вы не хаваеце?"
34. І помніце час, калі Мы сказалі ангелам: "Пакарыцеся
Адаму", і яны усе пакарыліся. Ён адмовіўся, бо быў вельмі
ганарысты: а Ён быў з няверных.
35. І Мы сказалі: "О, Адам, жыві ты і жонка твая у садзе,
ешце плады яго, дзе хочаце і якія хочаце, але не наблі-
жайцеся да таго дрэва, каб не стаць грэшнікамі".

36. Але д'ябал вымусіў іх абоіх пераступіць праз гэта, і пазбавіў іх таго стану, які яны мелі. І Мы сказалі: "Ідзіце вон, некаторыя з вас — ворагі другім, але для вас на нейкі час ёсць на зямлі прыстанішча і ежа".
37. Тады Адам даведаўся ад Госпада свайго нейкія словы малітвы. Такім чынам, Ён звярнуўся да яго з міласэрнасцю; сапраўды, Ён ёсць Выбачліны, Міласэрны.
38. І Мы сказалі: "Ідзіце прэч вы ўсе адгэтуль". І, калі прыйдзе да вас Маё павучанне, то тыя, што будуць кіравацца імі, не будуць ведаць ні страхі, ні скрухі".
39. Тыя ж, што не павераць і вытлумачаць нашы знакі, як абман, будуць насельнікамі Агню; там яны і будуць знаходзіцца.

Руку: 5

40. "О, сыны Ізраіля! Помніце пра даброты, якімі Я надзяліў вас, выконвайце ваш запавет са Мною; Я выконваю Мой запавет з вамі. І Мяне аднаго вы павінны баяцца.
41. І верце ў тое, што паслаў Я, якое адзяйсняе тое, што ў вас ёсць; і не будзіце першымі тых, якія не вераць у гэта; і не змяняйце знакі Нашы на мізэрную плату і шукайце прыстанішча ў Мяне аднаго.
42. І не блытайце ісціну з маною і не хавайце ісціну знарок.
43. І трымайцеся Малітвы і плаціце Закаат, і пакланяйцеся з тымі, хто пакланяецца.
44. І прасіце дапамогі з цярпеннем і Малітвай; гэта, сапраўды, цяжка, але толькі не пакорным духам.
45. Якія ўпэўнены, што сустрэнуцца з Уладыкаю іх і вернуцца да Яго.

Руку: 6

46. О, сыны Ізраіля, успомніце пра даброты, што паслаў Я вам, і таксама пра тое, што ўзвысіў Я вас над другімі народамі.



47. І сцеражыцеся таго дня, калі ні адна душа не будзе заменаю другой душы і не будуць прымацца хадайніцтвы за яе; і не будзе прымацца выкуп у яе і не будзе ім ніякай дапамогі.
48. І ўспомніце той час, калі Мы вас выратавалі ад народа Фараона, што прычыніў вам цяжкія пакуты, забіваючы сыноў вашых, пакідаючы жанчын вашых жывымі; і гэта было вялікае выпрабаванне ад Уладыкі Вашага.
49. І ўспомніце той час, калі раздзялілі Мы для вас мора і выратавалі вас і патапілі народ Фараонаў на вачах вашых.
50. І ўспомніце пра той час, калі Мы далі Майсею слова пра сорак начэй і вы ўзялі сабе цяльца і сталі маліцца яму, калі яго /Майсея/ не было і вы былі грэшнікамі.
51. Потым Мы вам даравалі, каб маглі вы адчуць удзячнасць.
52. І ўспомніце пра той час, калі Мы далі Майсею Кнігу і Распазнаванне, каб вы былі навучаны ў праўдзе.
53. І ўспомніце пра той час, калі Майсей сказаў народу свайму: "О, мой народ, сапраўды, вы прычынілі зло сабе, пакланяючыся цяльцу; таму звярніцеся да свайго Стваральніка і забіце сваіх суайчыннікаў, і будзе ад гэтага лепш вам перад вашым Стваральнікам". Пасля таго Ён звярнуўся да вас са спачуваннем. Сапраўды, Ён той, што Многа Разоў Звяртаецца, і Міласэрны.
54. І ўспомніце, як вы сказалі: "О, Майсей, мы ніяк не можам паверыць табе, покуль не ўбачым Алаха твар у твар". Тады маланка паразіла вас, пакуль вы глядзелі.
55. Пасля гэтага Мы ўваскрасілі вас пасля вашай смерці, каб вы маглі быць удзячнымі.

56. І Мы зрабілі воблакі засенню для вас і паслалі вам манну і перапёлак, кажучы: "Пакаштуйце ад добрых рэчаў, якія Мы падрыхтавалі вам".
І яны не прычынілі Нам зла, але прычынілі зло самім сабе.

57. І ўспомніце пра той час, калі Мы сказалі: "Зайдзіце ў гэта сяло і харчуйцеся там многа, і пакорліва прайдзіце ў вароты і скажыце: "Божа! Даруй нам нашы грахі". Мы даруем вам грахі вашы і дадзім прыбытак тым, хто робіць дабро.

58. Беззаконнікі замянілі гэта другім словам, не тым, якое было сказана ім. Тады Мы паслалі на беззаконнікаў пакаранне з нябёс, бо яны не паслухаліся.

/Працяг будзе/.

ПАМЯТАЙМА ХАДЗІС

Хадзіс — гэта паданне аб учынках і выслоўях прарока Мухамеда і яго паплечнікаў. Сукупнасць хадзісаў складае Суну.

## СЕДЬМОЙ ХАДИС

„... Не делайте из своих домов могилы — молитесь в них...“

الحديث السابع

حديث زين بن خالد الجهني :

« لا تتخذوا بيوتكم قبوراً ، صلوا فيها » .

الإمام أحمد في مسنده



ШТО ТАКОЕ САДАГА?

САДАГА, с а д а к а /араб. міласціна/ — дабравольная міласціна, прадпісаная Ісламам кожнаму мусульманіну, які мае сродкі для існавання і павінен дапамагаць бедным членам грамадства.

"І раздавайце на шляху Алаха..." /сура 2, аят 195 /.

"Тыя, які раздаюць сваю маёмасць на шляху Алаха, падобныя зярняці, з якога вырасла сем каласоў, у кожным коласе сто зярнят. І Алах падвойвае, каму пажадае /сура 2, аят 261 /.

Садагу чалавек можа раздаваць асабіста або праз аўтарытэтнага чалавека, найчасцей праз духоўную асобу. Урачыстая раздача садагі з'яўляецца важнай часткай рытуалу найбольшых мусульманскіх святаў. У беларускіх татараў садага часцей за ўсё раздаецца ў памяць аб памерлых бацьках, дзецях, дзядах-прадзедах, членаў сям'і, сваякоў. У якасці садагі могуць быць спецыяльна прыгатаваныя прысмакі, купленыя цукеркі, пячыва, часам грошы. Над садагой перад раздачай чыніцца спецыяльная малітва:

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ
РЭББІ-НА ТЭКАББЕЛЬ МІН-НА
ІН-НЕКЕ ЭНТЭСЕЕМІУЛЬ АЛІМУ
ЛЯ ІЛЯГЕ ІЛЛЕЛАГУ МУХАММЕД
РЭСУЛЮЛЛАГУ

## ЯНЫ ЗАГІНУЛІ Ў АФГАНІСТАНЕ

Сярод 700 савецкіх воінаў, якія нарадзіліся ў мірны час на Беларусі і пайшлі адсюль на вайну і там загінулі, ёсць і нашы беларускія татары. Змяшчаем пра іх артыкулы, запазычаныя з кнігі АФГАНІСТАН. ПАМЯЦЬ, якая падрыхтавана ў выдавецтве "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі і выйдзе ў свет у 1991 г. Чэсць іх памяці.

### МУХЛЯ Аляксандр Мустафавіч

Нарадзіўся 29.5.1963 г. ў г.п. Астрына Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Татарын. Член ВЛКСМ. Маці, Марыя Мустафаўна, працуе прадаўцом у г.Гродна, бацька, Мустафа Аляксандравіч, коніх навучальнай доследнай гаспадаркі "Прынёманская". У 1980 г. Аляксандр скончыў сярэднюю школу ў в. Путрышкі Гродзенскага раёна, у 1982 г. — Беламорскае марское вучылішча. У 1982 г. — быў накіраваны ваенкаматам на вучобу ў Гродзенскую аўташколу, якую скончыў з адзнакай. Працаваў на заводзе карданных валаў у г. Гродна. У 1983 г. прызваны ў Савецкую Армію Гродзенскім РВК. Накіраваны ў Афганістан. Радавы А.М. Мухля загінуў 15.7.1984 пры выкананні баявога задання. Пахаваны ў г.п.Іўе Гродзенскай вобласці на татарскіх могілках. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

### МЯДЗВЕДЗЕЎ Яўген Маратавіч

Нарадзіўся 30.11.1960 г. ў г.п. Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. Член ВЛКСМ. Бацька, Марат Захаравіч, беларус, вадзіцель Смілавіцкага вучэбна-вытворчага камбіната. Маці, Ева Адамаўна, татарка, пенсіянерка. У 1975 г. Яўген скончыў 8 класаў Смілавіцкай сярэдняй школы, у 1978 г. — Смілавіцкае ПТВ № 203 з адзнакай. Працаваў шафёрам у перасоўнай механізаванай калоне № 8 г. Чэрвеня. У маі 1979 г. прызваны ў Савецкую Армію Чэрвеньскім РВК. Служыў у Беларускай ваеннай акрузе, потым у Афганістане, механік-вадзіцель. Радавы Я.М. Мядзведзеў загінуў 22.7.1980 г. Пахаваны ў в. Дукоршчына Чэрвеньскага раёна. Узнагароджаны медалём "Воіну-інтэрнацыяналісту ад удзячнага афганскага народа".



## БУДУ ВУЧЫЦЦА ЧЫТАЦЬ І ПІСАЦЬ ПА-АРАБСКУ

У мінулым годзе нам далі знаць аб тым, што ў гарадскім пасёлку Іўе на Гродзеншчыне татарскія дзеці ў час канікул вывучаюць Іслам і арабскую грамату. На сямейным савеце вырашылі, што я паеду ў Іўе.

Вучняў-пачаткоўцаў сабралася 15 чалавек, амаль усе — пяцісямікласнікі. Наш настаўнік дзядзька Сулейман прачытаў нам некалькі аетаў /вершаў/ з Кур'ана, паказаў арабскія літары. На наступны дзень мы вучылі першую суру з Кур'ана — Аль-Фаціха. За першы месяц вучобы вывучылі некалькі малітваў, некаторыя навучыліся чытаць напісання арабскімі літарамі на беларускай мове Аль-Кітабы.

У час веснавых канікул у гэтым годзе мы зноў сабяромся у мусульманскай школе. Я вельмі чакаю сустрэчы з дзядзькам Сулейманам і маімі новымі сябрамі, а іх там у мяне нямала.

Мае родныя цешацца з таго, што я чытаю падручнік па мусульманскай грамаце, пішу без усякай памылкі. Пасылайце сваіх дзяцей у мусульманскую школу, не пашкадуеце. Скажыце для дзяцей, што у гэтай школе распусты быць не можа, што перад пачаткам заняткаў кожны дзень належыць памыцца, каб цела і думкі былі у чыстоці.

## ШЕСТОЙ ХАДИС

„... Вспоминающий Бога среди забывающих его, подобен оставшемуся на поле боя, покинутому остальными..."

الحديث السادس

حديث ابن مسعود :

„ ذاكر الله في الغافلين بمنزلة الصابر في الغازين " .

الطبراني في الكبير - صحيح

## УНУТРЫГАРАДСКІЯ НАЗВЫ НА БЕЛАРУСІ

У кожнай з сучасных навук усё большае значэнне надаецца праблемам чалавека. Сярод гэтых праблем значнае месца належыць урбананіміцы — навуцы аб унутрыгарадскіх назвах. Не выпадкова, што ў апошнія гады значна ўзрасла цікавасць грамадскасці да назваў унутрыгарадскіх аб'ектаў. Гэта і прапановы аб стварэнні Чырвонай Кнігі ўнутрыгарадскіх назваў, і рух за ўзнаўленне гістарычных назваў гарадскіх аб"ектаў, і перагляд адносін да назваў-прысвячэнняў.

Паколькі назвамі ў паўсядзённым жыцці карыстаецца кожны чалавек, то грамадская значымасць навуковай распрацоўкі праблем намінацыі ўнутрыгарадскіх аб'ектаў відавочная.

Для ўрбананімікі не толькі зусім натуральна, але жыццёва неабходна спроба зразумець развіццё ў мінулым, вызначыць сучасны стан і зазірнуць у будучыню. Для навукі аб назвах унутры горада гэта тым больш актуальна, бо сучасны стан урбананіміі нашай рэспублікі амаль трагічны: у выніку масавых пераіменаванняў за апошнія дзесяцігоддзі найбольш каштоўныя ў гісторыка-культурных адносінах унутрыгарадскія назвы зніклі.

Наш артыкул заклікаиы ўнесці хоць крышачку ведаў аб урбананіміі Беларусі — назваў вуліц, завулкаў, гарадскіх кварталаў, пэўных натуральна або штучна вылучаных участкаў гарадскіх земляў.

Цікава, што менавіта назвы дадзенай разнавіднасці з'яўляюцца найбольш старажытнымі, характарызуюцца працяглым часам выкарыстання. Так, першымі ў беларускіх гарадах назвамі вуліц, якія ўдалося выявіць у актавых матэрыялах, былі назвы гэтай групы: Руская вуліца і Нямецкая вуліца ў Бярэсці /Брэсце/ у 1485 г.

У ХУІ стагоддзі назвы вуліц, якія характарызуюць нацыянальны склад насельніцтва, былі ў Гародні /Нямецкі рынак — 1560 г./, Менску /Татарскі канец — 1560 г./, Пінску /Яўрэйская вуліца — 1552 г./. Яўрэйскія вуліцы вядомы таксама ў Брэсце /1566 г./, Кобрыне /ХУП ст./, Слоніме /1662 г./, Камянцы /1777 г./. У інвентарах зафіксаваны назвы вуліц Нямецкая, Польская, Літоўская, нават Грэцкая, Швэцкая, Грузінская, Галандская.



Важна адзначыць, што ў ХУІ — І-й палавіне ХУШ ст. існавала практыка засялення пэўных тэрыторый /вуліц, пасадаў, канцоў/ людзьмі адной нацыянальнасці.

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў ХУІ—ХУШ ст. назвы, у аснову якіх быў пакладзены паказчык нацыянальнай прыналежнасці, адзначаны галоўным чынам у гарадах і мястэчках заходняй і, радзей, цэнтральнай часткі Беларусі. У гарадах жа ўсходняй часткі Беларусі найчасцей трапляюцца назвы вуліц Руская.

У XX ст. пры названні /найменні/ унутрыгарадскіх аб'ектаў прыкмета па нацыянальнай прыналежнасці жыхароў знікае, паколькі ў выніку міграцыі насельніцтва большасці беларускіх гарадоў, асабліва вялікіх, з развітой прамысловасцю, становіцца шматнацыянальным. Зжыла сябе да гэтага часу практыка засялення асобных вуліц прадстаўнікамі адной нацыянальнасці. Таму аналіз назваў вуліц па нацыянальнай прыкмеце можна зрабіць толькі на падставе рэдкіх ужо ўспамінаў старажылаў, ды на архіўных матэрыялах. Варта адзначыць, што з даўнейшых часоў беларусы жылі з людзьмі розных нацыянальнасцей у добрай згодзе.

Больш падрабязна спынімся на гісторыі паяўлення і геаграфіі ўнутрыгарадскіх назваў, якія сведчаць аб месцы сталага пасялення татар у гарадах і мястэчках Беларусі.

Паводле даных гісторыкаў Я. Гембіцкага, З. Капыскага, А. Грыцкевіча рассяленне татар на Беларусі пачалося з XIУ ст. Сярод гарадоў і мястэчак, дзе пасяліліся татары, першымі звычайна называюць Навагрудак, Слонім, Ліда, Клецк, Пінск, Мінск, Брэст. У Мінску назва "Татарскі канец" /ускраіна/ у гістарычных дакументах

упершыню упамінаецца у 1560 г., але паяўленне татар у горадзе было, відаць, намнога раней, хоць дакладна не вядома. На плане горада 1888 г. замест назвы Татарскі канец знаходзім Татарскую вуліцу. Цяпер гэта частка праспекта Машэрава /раней — Паркавая магістраль/. Мала хто цяпер ведае, што на месцы сучаснай гасцініцы "Юбілейная" у пачатку XX ст. была пабудавана цагляная тынкаваная татарская мячэць, у гады савецкай улады зачыненая, пасля Вялікай Айчыннай вайны тут быў Марскі клуб, а у пачатку 1960-х гадоў разбураная, бо на думку архітэктараў-горадабудаўнікоў і "бацькоў горада" яна не упісвалася у новую гарадскую магістраль.

Хоць пакуль малавата крыніц пра унутрыгарадскія назвы у гарадах і мястэчках Беларусі, можна усё ж адзначыць, што геаграфічнае пашырэнне найменняў Татарская вуліца або Татарскі завулак сканцэнтраваны у заходняй і паўночна-заходняй частцы Беларусі. У ХУШ ст. Татарскія вуліцы былі у Слоніме /1796 г./ і Бярозе Брэсцкага павета, у Гродне, а у 1913 г. Татарскі завулак пазначаны на плане Ваўкавыска. Толькі у пасляваенныя гады у Ляхавічах назвы Татарская вуліца і Татарскі завулак былі заменены на вуліцы Цікоцкага і Булашоўскага, у гарадскім пасёлку Відзы Татарская вуліца перайменавана на вуліцу Пушкіна. Цяпер вуліца з назвай Татарская захавалася у Гродне.

Такім чынам, вывучэнне унутрыгарадскіх назваў Беларусі дае цікавую і каштоўную інфармацыю, знаёмства з якой можа дапамагчы людзям вярнуць адчуванне гісторыі, узрадзіць духоўную пераемнасць пакаленняў.



## МАЗАІКА ТЫХ ЧАСОЎ

Нашы продкі казалі: "Лепш страціць жыццё, чым быць абняслаўленым". У маі 1944 г. мой крымскататарскі народ быў выгнаны са сваёй радзімы — Крыма.

Май 1944 г.

Справа была у канцы мая 1944 г. Я з групай афіцэраў 1-га Прыбалтыйскага фронту ехаў за папаўненнем у г. Ніжні Тагіл. Ехалі праз Маскву. Кажуць, што гара з гарой не сходзяцца, а чалавек з чалавекам могуць нечакана сустрэцца. Трэба ж такое, што на харчпункце я сустрэў свайго сябра дзяцінства Алі Ісмаілава. Алі меў чын старшага лейтэнанта, ехаў у г. Горкі пасля лячэння ад ран у палявым шпіталі пад Ленінградам. Я быў у чыне капітана. Нашы жыццёвыя шляхі разышліся 7 гадоў таму. І вось сустрэліся у такім вялікім горадзе — Маскве. Алі пытае мяне: "Ісмаіл! Ты ведаеш пра нашу нацыянальную бяду? Нашых выганяюць з Крыма пад прымусам. Эшалоны з таварнымі вагонамі ужо прайшлі на усход". Я чуць не страціў прытомнасць ад гэтай страшнай весткі. Мы нават заплакалі ад гэтай страшнай крыўды, слёзы засцілалі нам вочы. Аб чым мы гаварылі тады, я ужо не памятаю, але гора з таго часу як павуцінне акутала маю душу і я ужо не магу змірыцца з гэтай бядой /некалькі гадоў таму назад Алі памёр у Ніжнім Ноўнгардзе, далёка ад сваёй радзімы/.

Чэрвень 1944 г.

Прыехаў у Ніжні Тагіл у вучэбны полк, дзе рыхтавалі экіпажы танкаў для адпраўкі на фронт. З намі сустрэўся камандзір палка. Ён прачытаў мае дакументы, паглядзеў на мяне і раптам сказаў: "Крымскі татарын — начальнік танкавага эшалона?" Гэта было сказана з такім здзіўленнем! Я зразумеў, у чым справа, бо ужо ведаў пра гнюсны паклёп на мой народ. Тады я з годнасцю

адказаў палкоўніку: "Таварыш палкоўнік! Вы можаце паехаць туды, адкуль я прыехаў, а я застануся тут і з задачай падрыхтоўкі танкавых экіпажаў справлюся. Можаце не сумлявацца". На гэтым размова скончылася. Праз 15 дзён я прыняў экіпажы і эшалон з 30 баявых машын накіраваўся на фронт. Але кляймо чалавека 2-га сорту ўжо на мне засталося.

Лета 1945 г.

Скончылася вайна, адгрымелі пабедныя салюты. Адразу пасля перамогі ў Польшчы ў крэпасці Модлін быў створаны вучэбны танкавы цэнтр. Я, выконваючы інтэрнацыянальны абавязак, у складзе Войска Польскага кіраваў падрыхтоўкай механікаў-вадзіцеляў для польскай арміі. Афіцэрам пачалі даваць адпачынак. Я звярнуўся да камандуючага — генерала Маставенка Д.К. з наступнымі словамі: "Таварыш генерал! Усе людзі, хто застаўся жывы, едуць дамоў на сустрэчу са сваімі блізкімі як пераможцы. А куды загадаеце ехаць мне? Я ж крымскі татарын". Генерал ведаў мой баявы шлях, ён уручаў мне ўзнагароды. Ён сказаў мне: "Сынок! Цярпі, прыдзе час — разбярэмся" і распарадзіўся, каб выдалі мне праяздныя дакументы на адпачынак у Сярэднюю Азію — Ташкент, Фергану, Андзіжан, дзе я мог бы знайсці сваіх родных. Вось так пачаліся пошукі маткі, сястры, вотчыма. Гэта было ў канцы ліпеня 1945 г. Генерал памыліўся толькі ў адным — з нашым народам да гэтага часу усё яшчэ разбіраюцца, але ніяк не разбяруцца /генерал Маставенка памёр у канцы 70-х гадоў у Мінску/.

Жнівень 1945 г.

Сустрэчу з маткай, сястрой і вотчымам не магу апісаць, не магу апісаць іх выгляд, жыллё на задворках мясцовых жыхароў. Яны былі галодныя, хворыя, замучаныя. Я знайшоў іх паблізу раённага цэнтра Ходжаабада Андзіжанскай вобласці. Цяжка сабе ўявіць, як жылі людзі ва ўмовах ваенна-камендантскага лагернага рэжыму. Не дай Бог нікому такога прыніжэння, растаптанай чалавечай годнасці. Вось так сустрэўся афіцэр-пераможац — крымскі татарын у чыне маёра са сваёй маці на месцы выгнання /маці памерла ў 1957 г. ад сухотаў/.



Май 1946 г.

У 1946 г. за выкананне інтэрнацыянальнага абавязку у складзе Войска Польскага разам з іншымі афіцэрамі быў прадстаўлены да ўрадавай узнагароды — ордэна Чырвонай Зоркі. Урачыста правадзілі нас на радзіму. Усе мае афіцэры-калегі гэту ўзнагароду атрымалі, толькі я адзін не атрымаў. Прычына — крымскі татарын. Ёсць дакумент Міністэрства Абароны, які тлумачыць, чаму я не атрымаў заслужанай узнагароды.

Сакавік 1947 г.

Я, як начальнік эшалона прывёз дэмабілізаваных салдат — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны ў Крым, у г. Сімферопаль. Пасля 10-гадовай разлукі ступіў на родную зямлю ў Крыме. Калі здалі дэмабілізаваных, вагоны і маёмасць для ваеннай камендатуры і чыгуначнікам, я вызваліўся і з групай афіцэраў адпачываў у прывакзальным бульвары. У гэты час да мяне звярнуўся сяржант. На грудзях у яго два ордэны Чырвонай Зоркі. Відаць было, што гэта храбры салдат, які вызначыўся ў абароне Радзімы. Ён сказаў мне, што ехаў дамоў у нашым эшалоне, што нарадзіўся ў Сімферопалі, да вайны жыў тут на вуліцы Субхі. Прыйшоў дамоў, але ўвайсці ў свой дом не мог: там жывуць другія людзі. І цяпер не ведае, куды дзецца. Даведаўся, што я таксама крымскі татарын, затое і звярнуўся да мяне. Я яму параіў тое, што мне калісці параіў мой генерал Маставенка: звярнуцца ў ваенную камендатуру, узяць праязныя дакументы і ехаць у Сярэднюю Азію, каб шукаць

сваіх там, на месцах высялення. Вось так салдат пайшоў па слядах спецперасяленцаў і сам, напэўна, стаў спецперасяленцам.

1953 г.

Я тады служыў у г. Барысаў. Амаль 8 гадоў удзельнічаў са сваім танкавым батальёнам у Мінску ў святочных урачыстасцях. І вось напярэдадні мы збіраліся ў дарогу, рыхтавалі машыны. Да мяне падышоў оперупаўнаважаны капітан Васільеў і сказаў: "Таварыш падпалкоўнік. Камандаванне пакідае вас у гарнізоне, на парад вам ехаць не трэба". Я адразу зразумеў, у чым справа. Такія выпадкі бывалі з другімі і раней. Перастрахоўшчыкі баяліся, як бы штонебудзь не здарылася. Я ж крымскі татарын! Я адказаў капітану: "Вельмі добра, я на парад не паеду, а на дэманстрацыю паеду усёй сям'ёй". Так і зрабіў, з жонкай і сынамі ўдзельнічаў у дэманстрацыі, а пасля пагасцяваў у землякоў, якія служылі і жылі ў Мінску. Калі вярнуўся ў гарнізон, то падаў рапарт члену Ваеннага Савета і пасля гэтага капітан Васільеў не паяўляўся ў маім батальёне. І наогул адчувалася, што пасля смерці Сталіна палажэнне стала крыху мяняцца да лепшага.

1960 г.

Я быў прызначаны на пасаду начальніка штаба скадраванага палка. Займаліся распрацоўкай мабілізацыйных планаў. Шмат гадоў прайшло, цяпер пра гэта можна пісаць і гаварыць. Мы мелі справу з сакрэтнымі дакументамі. У памяць урэзаўся адзін сакрэтны загад ваеннага міністра. Шкада, не памятую нумар і дату гэтага дакумента. Там было катэгарычнае указанне, куды вяртаць і даваць дакументы дэмабілізаваным воінам — крымскім татарам, чачэнцам, інгушам, калмыкам і іншым прадстаўнікам з дэпартаваных народаў. Гаварылася, што іх трэба накіроўваць туды, куды выселены іх родныя. Вось так! Маўр сваю справу зрабіў, маўр можа ісці туды, куды загадваюць.



1975 г.

Летам 1975 г. мы з капітанам у адстаўцы Алі Сеяметавым наведалі сваю родную вёску ў Крыме — Буюк-Каралёз. Са мною разам былі і мае сыны з нявесткамі. У маёй роднай вёсцы нас ніхто не пазнаў і не заўважыў, хоць мы былі пры ўзнагародах. Нашы хаты былі заняты рускамоўнымі людзьмі. Тады ў гэтай вёсцы ішло абсталяванне музея Вялікай Айчыннай вайны. Мы сказалі тым, хто афармляў стэнды, што мы тут нарадзіліся — капітан і падпалкоўнік, вось нашы дакументы. Напішыце пра нас як пра жыхароў гэтай вёскі. Нам адказалі, што нельга, крымскіх татар нельга ўпамінаць. Тады мы прасілі даць матэрыял пра Абдураманава Сеіта Нябі. Гэта ж выдатны разведчык, пра яго пісаў у салдацкіх мемуарах самы славуты пісьменнік Канстанцін Сіманаў. Разведчык узнагароджаны ордэнамі Славы ўсіх ступеняў. Пішыце пра яго, вось яго партрэт. Адказалі, што нельга, бо ён крымскі статарын.

1976 г.

У сувязі з вынікамі 9-й пяцігодкі і маім 60-годдзем мяне прадставілі да ўрадавай узнагароды. Работнікі Фрунзенскага выканкама і райкама віншавалі мяне з гэтым прадстаўленнем. Гэтай узнагароды я таксама не атрымаў. Прычына? Прозвішча, нацыянальнасць.

І цяпер, хоць многа было размоў аб рэабілітацыі дэпартаваных народаў, аб раўнапраўі, але многа тысяч асуджаных крымскіх татараў у 70-я і 80-я гады за спробу вярнуцца на сваю гістарычную радзіму, у Крым, за парушэнне пашпартнага рэжыму знаходзяцца яшчэ ў няволі. Або ўзяць хоць бы вядомае паведамленне ТАСС па справах крымскіх татараў, калі Грамыка ўзначальваў дзяржаўную камісію па аднаўленні праваў дэпартаваных народаў. Колькі там хлусні! Або пацікаўцеся сапраўднымі мэтамі правядзення рэферэндума, які правадзілі вялікадзяржаўныя шавіністы ў Крыме. Простай

арыфметычнай большасцю рускамоўнага народа вырашаўся лёс карэнных жыхароў Крыма — крымскіх татараў. Але як бы не падманвалі людзей, нашым непрыяцелям гэта не ўдасца: вiдаць iх доўгiя вушы. Справядлiвасць i праўда павiнны перамагчы!

## ВОСЬМОЙ ХАДИС

„...Спросил один человек Пророка /милость и мир ему от Бога/ —Какой Ислам лучше и Пророк сказал: Кормить нуждающихся и здороваться / говорить салам/ с теми, кого знаешь и с теми, кого не знаешь...“

## الحديث الثامن

حديث عبدالله بن عمرو بن العاص رضي الله عنهما :
قال : « أن رجلاً سأل النبي ﷺ : أي الإسلام خير ؟
قال : تطعم الطعام وتقرأ السلام على من عرفت ومن لم
تعرف » .

متفق عليه



## НА НАЛЬШЧАНСКАЙ ЗЯМЛI

Не маючы магчымасцi наведаць 16 лiстапада вечар татарскай нацыянальнай культуры, маю намер падзялiцца сваiмi апошнiмi назiраннямi на цяперашнi стан захаванасцi гэтай старажытнейшай спадчыны на Нальшчаншчыне, а менавiта ў наваколлi Крэва.

Калi ўспомнiць гiсторыю, то можна адзначыць такi факт, што ў часы Вялiкага Вiтаута на гэтыя землi з далёкiх паўднёвых паходаў князь прывёў i пасялiў татар. Такiя назвы навакольных вёсак, як Ардашы, Гамзiчы, Даўбучкi, Ордзевiчы ды многiя iншыя яскрава сведчаць аб тым, што для гэтых прышлых людзей нашы мясцiны сталi другой Бацькаўшчынай, другiм родным домам i яны добра ўжылiся з мясцовым людам. Таму i не дзiўна, што многiя прозвiшчы жыхароў на гэтай легендарнай Нальшчанскай зямлi нагадваюць паўднёвыя. Аднак такое супольнае i талерантнае сужыцельства пасля прыходу Савецкай улады было гвалтоўна знiшчана i людзi, будзь то беларус, татарын цi яўрэй, пачалi забываць свае гiстарычныя каранi, а разам з iмi i гiсторыю, i культуру, i народныя заняткi, i ўсё сваё нацыянальнае.

Не гаворачы аб тым, што па пашпарту яны даўно сталi механiчнымi беларусамi. I не дзiўна, бо палiтыка выхавання "новага савецкага чалавека" была накiравана менавiта на забыццё сваёй нацыянальнай годнасцi, сваiх гiстарычных продкаў, бо ўся гiсторыя пачынаецца з 1917 года цi з 1940-х гадоў.

Здабыткi матэрыяльнай культуры апынулiся ў самым горшым стане, так як iх можна назiраць. А што ўбачыш, тое не забудзеш! Вось пра сённяшнi стан могiльнiкаў цi татарскiх мiзараў i мячэцi i пойдзе гаворка. Будуючы да Алiмпiйскiх гульняў шашу Мiнск—Вiльня многiя "перашкоды" на шляху былi разбураны i назаўсёды знiшчаны як "дробязi". Гэтымi "дробязямi" былi старыя татарскiя могiлкi каля вёскi Гамзiчы /iснуе i другая, народная назва гэтай вёскi — Гамзавiчы/. Такiх могiлак было знiшчана 2 /на iх ужо з даўнiх часоў не прало-

дзілася пахаванню/. Магу зауважыць і аб тым, што за два апошнія гады у тых мясцах адбылося пяць дарожных аварый з ахвярамі, што парадзіла у мясцовых жыхароу адчуванне фатальнага адказу за судзеяннае бяздушным начальствам.

Спрадвеку служыла для людзей мячэць у вёсцы Даубучкі. Здымкі пачатку веку сведчаць пра добры стан будынка. Такія здымкі ёсць на стэндах у Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі і гістарычным музеі у Вільні ды, магчыма, і у іншых месцах. Цяпер гэта найстаражытнайшая драуляная мячэць у цэнтральнай Еуропе знаходзіцца у руінах. Непадалёку татарскія магілы у стане забыцця, хоць пахаваны там даволі знатныя людзі свайго часу. Вось надпіс на камяні: "Здесь покоится прах Ивана Даниловича Заблоцкого ротмистра татарского уланского полка, удостоившегося получить в сражении под Кульмом крест Св. Георгия с рук Его Величества Государя Императора Александра I-го". А колькі пакоіцца простых, сумленных людзей! Спіс разбурэнняу і занапад можна падаужаць і падаужаць, тым больш, што татарскія паселішчы былі у розных кутках нашай дзяржавы, але мне не жадалась бы закончыць гэты ліст на такой сумнай ноце.

Назіраючы вялікі уздым нацыянальнага руху, я спадзяюся, што не адбудзецца болей здзекванняу над святымі месцамі і развіццё будзе насіць духоуны характар. У пачатку 1990 г. я з задавальненнем успрыняу звестку аб стварэнні суполкі "Аль-Кітаб". Толькі разам, толькі у згодзе з усімі нацыянальнасцямі, якія жылі, жывуць і будуць жыць на роднай Беларускай зямлі, мы зможам выйсці з таго становішча, у якім апынуліся, і крочыць далей па шляху да незалежнасці Беларусі!

З павагай ваш сябр У.У. Прыхач

II лістапада 1990 г.



## "АЛЬ-КІТАБ" У ПЯТНІЦУ

Нядауна мне трэба было прыехаць на Беларусь, у Гародню. Адразу залатвіць свае клопаты не удалося, таму выдауся вольны час каб паехаць у Мінск. Мінулым летам на курултаі татарскай моладзі у Казані я пазнаёміуся з дэлегаткамі беларускіх татар — Расімой і Танзілёй, даведауся ад іх, што у Мінску дзейнічае татарскае грамадска-культурнае таварыства "Аль-Кітаб". Мне цікава было паглядзець, чым займаюцца, якія яны татары, што жывуць амаль 600 гадоу воддаль ад сваёй прарадзімы. Патэлефанаваў на тэлефоне аднаму з беларускіх татар у Мінску, што хачу пабачыцца з супляменнікамі. Мяне запрасілі у госці. Пашчасціла, што праз дзень была пятніца, а у гэты дзень пасля 18 гадзін адбываецца сустрэча мясцовых татарау. Мая знаёмая дзяучына у паугаласа называла тых, хто выступау перад прысутнымі. Ібрагім Канапацкі паведаміу, што Беларускі фонд культуры дау згоду і абяцау матэрыяльную падтрымку для этнаграфічнай экспедыцыі па гарадах і вёсках Беларусі, дзе жывуць значныя групы беларускіх татарау — Клецк, Арда, Ляхавічы, Слонім, Навагрудак, Іуе і інш. Вельмі цікавым было выступленне Абубекіра Шабановіча аб тым, што ён бачыу у Нідэрландах, пра сустрэчы з тамтэйшымі туркамі і татарамі. Далі магчымасць выступіць і мне. Я расказау, чым жыве татарская моладзь у Казані, перадау прапанову казанскіх татарау запрасіць на пастаяннае жыццё беларускіх татарау, якія апынуліся у зоне радыеактыунага забруджвання. Думаю, што у маладых татарау будзе жаданне прыехаць у Казань на свята вясны Науруз, якое адзначаецца 21 сакавіка. На сходцы былі паволжскія татары, якія ведаюць татарскую мову. З імі, а таксама з крымскімі татарамі я пагаварыу на роднай мове.

У канцы сходкі настаунік Халіл вёу заняткі па гісторыі Ісламу, напісау на дошцы рускімі і арабскімі літарамі 114-ю, апошнюю суру з Кур'ана, дзе гаворыцца: У імя Алаха Міласцівага, Міласэр-

нага. Скажы: я шукаю прыстанішча ва Уладцы роду чалавечага, Цара роду, Бога роду чалавечага ад злосці злаязычніка, які крадзецца, які нашэптвае дрэннае сэрцам людскім. Выратуй нас ад д'ябла і благіх людзей".

КІТАБ /арабск — кніга/ — распаўсюджаны сярод беларускіх татар рукапісны зборнік розных, у асноўным рэлігійных тэкстаў, запісаных на беларускай мове арабскімі літарамі. Першыя кітабы з'явіліся ў XVI стагоддзі, калі перасяленцы татары з Залатой Арды на беларускія землі пры вялікім князе літоўскім Вітаўце пачалі забываць сваю родную мову і сталі карыстацца беларускай. Дзякуючы таму, што ў заснаваным на арабскай графіцы алфавіце беларускіх татар налічвалася 46 літар, гукавае адлюстраванне тагачаснай беларускай мовы ў кітабах захавалася лепш, чым у тэкстах, запісаных кірыліцай. Кітабы уяўляюць вялікую вартасць для філолагаў-беларусаведаў. Акрамя таго, яны прадстаўляюць каштоўнасць як літаратурныя творы, а летапісы — яшчэ і гістарычную каштоўнасць для сучаснікаў.

Вы можаце пазнаёміцца з цікавым як у літаратурным, так і ў гістарычным сэнсе творам старажытнай пісьменнасці.

## СТАРАЖЫТНАЯ КАЗКА З КІТАБУ

Гэта гісторыя і аповесць. Спеўшы кароткую малітву Селеват, трэба паслухаць яе. Жыў адзін маладзец, які ў размове і ў навуцы вельмі быў дасканалы, але надта абяднеў, бацьку ды матку не меў чым пакарміць. Маладзец што робіць: пайшоў да бацькі з маткаю і кажа: "Ой, бацька і матка! Верце мне, я так абяднеў, што не маю чым вас карміць і ў што апранаць. З вашага дазволення я пакіну вас аднаму гаспадару. А калі мне пан Бог дапаможа, то я вас выкуплю". Бацька і маці яму дазволілі.

Тады ён пайшоў да аднаго гаспадара і казаў так:

— Пан гаспадар! Маю аднаго нявольніка і нявольніцу. Абодва старыя. Купі іх у мяне. Вельмі абяднеў, не маю чым іх карміць.



А калі з голада паўміраюць, то на маю душу той грэх падзе. Калі ж мне пан Бог дапаможа, я іх выкуплю ў тваёй міласці.

— Пан маладзец, — гаспадар гаворыць. — Сам на сябе нагаворваеш, што халоп і халопіна старыя. Хто іх у цябе купіць?

— Для Бога купі. Не маю ні аднаго граша, каб карміць іх. Няхай табе век свой служаць, пакуль мне пан Бог дапаможа.

— Маладзец, наколькі яны дарагія? Што магу даць табе, што прасіць будзеш, — паведай мне.

— За старога халопа дай старога каня, а за старую халопіну — стары кажух.

Той гаспадар даў яму старога каня і стары кажух, і быў таму вельмі ўдзячны, што так танна купіў. А маладзец таксама быў задаволены, што дастаў каня і кажух, бо меў з чым шчасце шукаць. Бацьку ж і матку пакінуў служыць. Гаспадар ім ежу, піццё даваў даволі. Маладзець іх пану Богу даручыў і з тым у дарогу рушыў. Пабачыце, пан Бог пазначыць яму ў дарозе.

Едучы, сустракае аднаго падарожніка, які стаміўся, ды і сам чалавек занепакоены такі. З вялікай дарогі. Блізка да яго пад'ехаў маладзец, прывітаўся. Той адказаў.

— Такую пільну дарогу маеш, што так хутка едзеш, аж конь пад табою стаміўся, — маладзец кажа.

— Я маю лісты да таго і таго замка. Пільна наказана падаць.

— Дай мне тыя лісты і назад вяртайся, як раз я да таго замка еду і лісты падам.

Падарожнік лісты аддаўшы, сам назад павярнуўся. А маладзец падумаў сабе, што лісты вязе і не ведае, што ў іх напісана. Хаця б пабачыць, што там і прачытаў: "Хто б тыя лісты да таго замку падаў, таму галаву адрубіць і пад замкам на кол пасадзіць. Маладзец кажа сам сабе: "Бачыш, што за справа? Мала што сабе галаву не загубіў, каб лісты не прачытаў, не даведаўся б, што ў іх піша.

Без вестак загінуў бы". Даў ён хвалу Богу і кажа сам сабе: "Справа чакае мяне". І паехаў далей.

Прыехаў да аднаго горада. А горад за вялікаю сцяною, люду поўна. Бачыць каля горада калы паўбіваныя. На кожным — чалавечая галава забітая. Падумаў і дзівіўся таму нямала. І кажа сам сабе: "Што гэта за дзіва? Хаця б адну ноч пераначую і даведаюся!"

Маладзец у той горад заехаў, накіраваўся да адной хаты малой. А ў той хаце бабка старая была. Маладзец кажа:

— Матка! Дазволь мне ў тваёй хаце пераначаваць.

У той бабкі адзін сын быў, днямі памёр. Бабка ж у вялікім смутку па свайму сыну. Убачыўшы малайца, яна ўзрадавалася і кажа:

— Заязджай, сынку, у малую хату і начуй.

Заехаў маладзець у бабкіну хату і заначаваў. Была ноч бяссэнная, маладзец з бабкаю размаўляў, бабку маткаю называў, а яна яго — сынам.

— Матка! Што гэта на калах чалавечыя галовы? Для чаго забітыя?

— У тым горадзе гаспадар адзін мае дачку. Паслухай, паведаю табе... Да той яго панны вельмі шмат каралевічаў, князёў прыязджала. На дыспут выклікала з мудрасцю сваёй. Ніхто не адказаў, чаго яна запытала. Той панне-каралеўне роўні няма на свеце. Якая мудрая! Якая прыгожая! Шмат розных каралевічаў, князёў і гаспадарскіх сыноў прыходзілі і канкуравалі, пакваніліся на яе і прыносілі скарбы. Тая гаспадарына скарбы не заўважала. Прымаючы і экзаменуючы аднаго або двух на дзень кожны, да бацькі адсылала і кожны раз галава малайца падала і на кол узбівалася. Казала яна так: "Хто хоча, няхай прыйдзе да мяне і адгадае мне з навукі, чаго будуць пытаць. Тады возьме мяне за сябе. А калі навукі не будзе ўмець і не адкажа на тое, што буду пытаць, тады галаву патраціць".



Маладзец прамову выслухаў і дзівіўся таму моцна. І мовіў да той пані:

— Ай, матка! З твайго дазвалення я да той каралеўны пайду, дыспутавацца пасіпрабую. Бо што на чале напісана, таго не мінеш. Калі пан Бог мне дапаможа дыспутаваць і адгадаць, вазьму яе за сябе. А калі ён мне не дапаможа, галаву пакіну.

— Для Бога, сынку, прашу цябе, дай той панне спокуй. Ні адна галава ад каралеўны не выйшла. Тая панна навукі не баіцца ў дыспуце, а на скарбы не спакуслівая, аніякіх жахаў не баіцца.

— Бывай, матка. Пайду я, бо хто смерці баіцца, той добра не адкажа.

— Няхай табе, сынку, пан Бог дапаможа, няхай твой верх будзе.

Маладзец да гаспадарскіх варот альбо да брамы прыйшоў. Спытаў дазвалення. Дазволілі пусціць малайца. Хутка вароты адчынілі. Маладзец пайшоў да гаспадара-караля і кажа:

— Пан гаспадар! Найяснейшы кароль, пан мой, ці дазволіш нам з найвышэйшаю каралеўнаю размову весці ў навуцы божай?

— Ой, маладзеча! На крывавую справу не ідзі, у суд галаву не нясі. Калі навукі не будзеш ведаць, тады галаву пакінеш.

— Добра, я на тое згаджаюся, і прашу вашай каралеўскай міласціні далажыць панне.

У той жа час панне далажылі. І прызвала яна малайца да сябе прыйсці. Слугі яго да панінага пакою прынялі і паставілі за залатое крэсла. Маладзець сеў на тое крэсла, і панна твар свой паказала. Вельмі прыгожая яна была. Маладзец падумаў сабе: "Як буду на твар панны глядзець, тады розум памяшаецца, недарэчнасць учыню, не буду ведаць, што адказаць" і кажа:

— Ай, панна, схавай твар свой. У нашым законе пан Бог забараніў на белы твар глядзець. А тады навукі пытай.

— Я у цябе першае слова пытаю, — панна кажа. — У чым сядзіш, маладзец?

— У сааіх штанах сядзу.

— Што без шаблі сячэ?

— Рыба у моры. Тая рыба такая вялікая, як гара! Карабель заглынае, як масла.

— Хто у магіле сорак дзён плакаў?

— Гэта Йунус-прарок. Калі яго рыба з'ела, тады ён у нутры рыбіным бну сорак дзён, у рыбе смуткаваў і плакаў.

— Хто дайшоў да магілы і смертнай мукі не меў?

— Гэта Аййуб-прарок. I8 год цяжка хварэў. Дзве тысячы чарвякоў цела яго елі, цяжкія мукі і болі цярпеў, таксама як у грабе.

— Ай маладзеча! Чатыры асобы не ад маткі радзіліся. Хто такія?

— Гэта Адам, айцец наш. Другая — жонка яго і наша матка Ева. Трэці — Ісмаўлаў баран, каторага пан Бог стварыў і на некалькі тысяч гадоў у раю схаваў для Ібрагіма. Чацвёрты — прароцкі вярблюд, называецца Саліх.

— Хто бязвінны здрадзіў і няпраўду казаў?

— Йусуфа браты здрадзілі. Прыйшлі да бацькі і казалі, што Йузека воўк з'еў.

— Што гэта за I2 людзей прыйшлі да горада Місір, і з тых I2 — 6 тысяч стала?

— Гэта Йакуб з дванаццацю сынамі да Місір-панства прыйшлі. А там людзі Йусуфа падыйшлі. Так іх 6 тысяч стала.

Да самага вечара маладзец апавядаў, ніводнай рэчы не перабытаў. Панна і кажа:

— Сёння можаш ісці ад мяне, але назаўтра прыходзь, задам табе смутак.



— Той добры, пан, які сёння дапамог, той і заўтра дапаможа.

Маладзец устаў з месца і ў радасці пайшоў да бабінай хаты. Баба сустрэла яго:

— Як ты, сынку, выйшаў адтуль? Мая душа з целам развіталася, пакуль цябе дачакалася.

— Чаго дзеўка ў мяне пыталася, тое і адказваў у малым часе слова ў слова.

У вялікай радасці лёг спаць, але сон яго не браў, паўночы не спаў, думаў... Назаўтра рана ўстаў, пану Богу хвалу аддаў і пайшоў яшчэ да палацу. Дазволена было яго пусціць. Маладзец прыйшоў да пакою, дзе панна ўжо задумала загадку.

— Паведай, што гэта за дрэва: дванаццаць галінак, на кожнай галінцы трыццаць лісткоў, сярэдзіна чорная, а верх белы?

— Гэта год і дванаццаць месяцаў у годзе. І тое, што на кожнай галінцы 30 лісткоў — гэта месяцы 30 дзён, ноч чорная, а дзень белы.

— Што гэта за птушка: не нясецца і не плодзіцца аднолькава.

— Гэта год аднолькавы, не прыбывае і не адбывае.

— Паведай мне, маладзеча, у навуцы шмат птушак ёсць?

— Сем птушак у Каране пан Бог упамінае: сініца, скаўронак, голуб, пчолка, удот, салавей, жаўронак.

— Каму пан Бог прыроджаную навуку даў і той навукі ніхто не можа знайсці, а не тое, што авалодаць?

— Гэта пчолка прыроджаную навуку мае.

— Яшчэ дзве рэчы: што гэта за людзі няпраўду мувілі — да раю пайшлі, а другія людзі праўду мувілі — і да пекла пайшлі?

— Тыя людзі, каторыя няпраўду мувілі, — гэта Йусуфа браты. Йусуфа ў студні утапілі, бацьку мувілі: "Йусуфа воўк з'еў". Пазней перад Богам каяліся. Тады пан Бог пакаянне прыняў і тыя, каторыя праўду мувілі, да пекла пайшлі, на самой справе пайдуць

пертыя -- хрысціяне, другія -- яўрэі. Хрысціяне мувілі яўрэям: "Вы балваноў цалавалі", а яўрэі мувілі хрысціянам: "А вы і цяпер абразам і балванам кланяецеся". Тады яны абодва праўду мувілі і да пекла пайшлі.

-- Паведай мне, маладзец, чортава як імя?

-- Чортава імя Херыс. Як на небе быў, таго звалі Ібліс.

-- Айцец наш Адам на тым свеце як шмат гадоў жыў?

-- Тысячу гадоў не поўнасцю жыў.

-- Як шмат разоў да Каабу хадзіў?

-- 70 разоў у Каабу быў.

-- Што гэта такое, што не мае ні меса, а ні полага і само сабе ахоту дае?

-- Гэта вецер.

-- Хто ўперад да пекла ідзе?

-- Гэта Кабіл, каторы Габіла, брата, забіў.

-- Ідзі сабе з Богам. Калі і ранідаю адкажаш, то будзеш шчасце мець.

Маладзец дзеўцы пакланіўся і пайшоў з Богам. Дзеўка вельмі засмучалася і дзівілася яго мудрасці і навуцы, бо такога нідзе не бачыла. І ў той вечар нічога не ела з вялікага смутку і цэлу ноч не спала.

На трэці дзень пайшоў маладзец да палацу. Прыйшоў да дзеўчынага палацу, прывітаўся і на залатое крэсла сеў. З радасці дзеўка мувіла:

-- Ай, маладзеча, хто гэта такія за стварэнні раней людзьмі былі, а цяпер звярамі сталі?

-- Першы -- пацук, другая малпа, затым рысь, кот, Зухра -- на небе зорка, заяц, матылёк, варона, папугай, сокал, арол, воўк і слон. Усе людзьмі былі.

-- З якіх прычын і такіх учынкаў пан Бог стварэннямі зрабіў?



-- З той прычыны звярамі сталі: за святога Йезуса. У Іса-прарока было 70 чалавек няверных. Тады пан Йезус паварацію іх на веру праўдзівую. Даў яму пан Бог на яго прароцтва так мувіць, каб хворых калек лячыў, сляпых відушчымі рабіў, мёртвых уваскрашаў, абы яго прароцтва пазналі. А тыя 70 людзей пана Бога не ведалі і ў яго прароцтва не верылі, мувілі: "Лыгун, чараўнік". Варона. Адна дзеўка была, дачка Адамава. Два кавалера сапернічалі, адзін другому ўчынкі чынілі і прасілі пана Бога, каб ні таму, а ні таму не дасталася. Тады пан Бог варонаю абярнуў. Івалга. Адна жонка была, называлася Саліта. Як мужык спаць пойдзе, то яна ўцякала да чужых мужыкоў. За гэта пан Бог Івалгай абярнуў. Заяц. Таксама жонка была, бяз мужнята дазволу хадзіла, дзе сама хацела. Тады пан Бог абярнуў. Мыш. Таксама жонка вельмі ліхая, сварлівая, нідзе не маўчала. Тады пан Бог мышшу абярнуў. Павук. Таксама адзін чалавек быў, з мёртвых пахаваных людзей адзёжу здзіраў. Тады пан Бог павуком абярнуў. Матылёк. Жонка была,прыгожая хадзіла, звала чужых мужыкоў, а свайго не любіла. За тое пан Бог матыльком абярнуў. Пвыркун. Крыўднік чалавечы быў, лыгун і злодзей. Тады пан Бог казулькаю благою абярнуў. Сыч. Таксама адзін гаспадар быў, над людзьмі здзекваўся, то пан Бог сычом абярнуў. Воран. Адзін чалавек вялікі лыгун быў, за тое, яго пан Бог воранам абярнуў. Руды павук. Мужны чалавек быў, але праўду ў крыўду ператвараў і дзевак на блуд падштурхоўваў, а за тое пан Бог благою казулькай абярнуў. Арол. Таксама мужны. Пан Бог зрабіў яго каралём-фараонам, а ён людзей крыўдзіў, не звяртаў увагі на пана Бога. За тое пан Бог арлом абярнуў. Слон. Такі чалавек быў, што ў людзей жывёл адымаў.

Маладзец праз тры дні аб чым дзеўка пытала, на кожну рэч адповедзь даў. І мувіў:

-- Ай, дзеўка! Яшчэ я ў цябе адну рэч спытаю. Ці адкажаш ты

мне? А калі не адкажам, тады таксама твая галава упадзе і пад замкам на кол узбіта будзе.

— Добра, я на тое згодна, альбо твой верх будзе, альбо мой.

— Ай, дзеўка! Хто такі — маткаю адзеўся, а на бацьку паехаў, а потым смерць да яго прычапілася, адзін падарожнік прынёс, а пан Бог з ласкі свайй абараніў яго ад той смерці? То мая загадка.

Дзеўка мысліла, але не магла таго ні адным спосабам адказаць і адгадаць. І мувіла:

— Ай, маладзец! Праўда, не давялося мне ведаць такога вучонага і мудрага, як твая міласць і мудрасць. Былі у мяне розныя вучоныя. Ні адзін са мною не мог патрафіць у навуцы і у дыспутах. Прашу цябе, дай мне час хаця б да раніцы. А калі не адкажу, тады твая воля будзе, як захочаш, так учыніш.

Маладзец мувіў: "Добра", — і пайшоў сабе да бабінага дому. Дзеўка у вялікім смутку заставалася і мувіла сама сабе: "Мой божа, што мне рабіць? Пайду да малайца і буду пытаць у яго загадку. Калі скажа мне, тады раніцаю, адгадаўшы, укажу яму галаву адсячы і на кол узбіць. А затым дзеўка убралася непазнавальна і маладзец не смуткаваў, быў вясёлы, думала, як на дзеўку паглядзіць, дык і розум страціць. Набрала з сабою рознага напітку і едзення, але пан Бог малайцу у кожнай рэчы памочнікам быў. Пайшла дзеўка да бабінага дому і закалаціла у дзверы. Баба выйшла праціў дзеўкі. Дзеўка мувіла:

— Ай, баба! Дазволь мне у хату увайсці.

— Уваходзь здарова.

Увайшла у хату. Маладзец паглядзеў на дзеўку і кажа:

— Здарова прыйшла, як ранняя зорка. Што за патрэбу маеш? Чаго прыйшла?

— Я у цябе закахалася, для таго і прыйшла. Усе людзі ка-



жуць, што маладзец вучоны, і мудры, і прыгожы, што нашу гаспадарыну перагадаў, а яна сама падобна на каралеўну.

— Будзь здарова. Шмат прыгожых ёсць.

— Тады дзеўка твар свой адкрыла. Маладзец як глянуў, нічога яму на памяць не прыйшло, бо такая дзеўка вельмі прыгожая. Немалы час яны бавілі. Пілі, елі, смяяліся, жартавалі адзін з другім. Потым дзеўка кажа:

— Калі пана Бога баішся, скажы мне, чаго буду пытаць.

— Што ж такое?

— Паведай мне сваю загадку.

— Мая загадка каля цябе. Такая мая загадка: я абяднеў. За няволю бацькі і маткі узяў каня і кажух. Паехаў. У дарозе аднаго малайца пытаў: "Дзе едзеш?" Ён мувіў: "Да таго замку лісты маю". Тыя лісты да сябе узяў, і яго назад вараціў.

Дзеўка на тыя рэчы адказаць не магла. Выпытаўшы усё дасканала, пайшла яна да палацу. Маладзец устаў рана, зразумеў, што дзеўка тая самая была і кажа так:

— Ай, галава бедная, баліць мая душа.

Пазней агледзеўся каля сябе, аж бачыць, дзеўчын пярсцёнак на пасцелі ляжыць. Маладзец і кажа: "Яшчэ рыцар не загінуў, калі дзеўчын пярсцёнак знайшоў". Пярсцёнак залаты, вочка — камень дыямент, на камні панны імя выразана. Маладзец пярсцёнак узяўшы, пайшоў яшчэ да палацу. Да панны прывітаўся і мувіў так:

— Няхай табе пан Бог дасць век доўгі.

— Ай, маладзец! Вось я скажу тваю загадку: бацьку учыніў канём, а матку — кажухом. І у дарозе едучы, аднаго падарожніка сустрэў, конь у яго стаміўся. А ты пытаў: дзе едзеш? Падарожнік мувіў: "Да таго замку лісты вязу". І ты казаў: "Дай мне тыя лісты. Усё роўна еду да таго замку, лісты падам, бо мой конь свежы, а сам назад вяртайся". Падарожнік лісты падаў, а сам назад вярну-

ся. А ты мувіў: "Не дам так я лісты, пабачу, што ў лістах піша: "Хто б тыя лісты да таго замку падаў, таму галаву адсекчы і на кол узбіць", — гэта твая загадка. "Ай, маладзец, ні адна галава не будзе бяспечна". І мувіла слугам: "Да бацькі спрavадзьце і бацьку скажыце, што я малайца пераспрэчыла".

І выправадзілі малайца да гаспадара і абвясцілі гаспадару, што ўжо дзеўка малайца пераспрэчыла. Маладзец рэк:

— Пане гаспадару! Маю адно слова паведаць да вас.

— Што маеш казаць? — гаспадар спытаў.

Некаторыя мувілі да гаспадара: а што ён скажа цяпер, перад смерцю. Хіба што без справы будзе мувіць? Гаспадар кажа:

— Ён гэтулькі дзён размаўляў з дзеўкаю, можа і зараз мне паведае што слушнае.

Маладзец пачаў мувіць так:

— Пане гаспадару! Сённяшняй ноччу адзін голуб з дзяўчынінага палацу вылецеў і, летучы, зверху рознымі каменнямі сыпаў. І прыляцеў да майго начнога стану, да бабінага дому. Я яго схапіў і ў руцэ трымаў, і што хацеў, тое з ім чыніў. А затым ён з рук маіх вырваўся і паляцеў назад да дзеўчынага палацу. За то пану Богу хвала, што мне пяро засталося, — гэта і ёсць маё слова.

— Ай, маладзеч! Пакажы мне тое пяро!

Маладзец паказаў дзеўчын пярсцёнак. Гаспадар убачыў, аж дзеўчын пярсцёнак. Тады вельмі ўстурбаваўся і зараз наказаў дзеўцы прад сабою стаць і казаў:

— Ай, жыгун людскі! У малайца знаходзіцца пярсцёнак твой. Хто занёс да малайца?

Дзеўка кажа:

— Не той пярсцёнак.

— Прынясі мне ў той момант пярсцёнак свой, пабачым. А малайца вольным зраблю.



Дзеўка з вялікага страху вараціласся назад да палацу і наказала ў тую ж гадзіну залатара клікнуць. І кажа:

— Мілы мой залатару! Зрабі мне ў тую ж гадзіну такі і такі пярсцёнак. Што хочаш за пярсцёнак, тое дам табе. Пярсцёнак залаты, вочка — камень дыямент.

Залатнік адказаў: "Будзе за адну гадзіну", — І зрабіў пярсцёнак такі, які і той быў. На камені выразана дзеўчына імя. Дзеўка дала залатару тысячу залатых і прасіла, каб не "аславіў" людзям і ў тую ж гадзіна пайшла да палацу бацькінага. Бацька узяў пярсцёнак. А ў гаспадара былі на той час розныя паны і бачылі абодва пярсцёнкі дзеўчыны. Але той стары, а гэты новы, бачылі абодва, што па аднаму і таму ж узору роблены. Усе людзі: і паны, і люд паспаліты, і цэлы двор, чэлядзь — усе прызналі, што абодва пярсцёнкі дзеўчыны. Але той стары, а гэты новы, — сведчылі перад гаспадаром. Гаспадар кажа:

— Ай, дачка! Аддам цябе за таго малайца. Як ён вучонага і ў розуме дасканалага, другога такога не маеш.

І ўсе паны радзілі аддаць за таго малайца. Тады гаспадар чыніць да таго малайца. Да шлюбу пайшлі. Сем дзён вяселле было. Поўныя катлы ежы былі, на сурме сурмілі дзень і ноч. Як правадзілі малайца ў пакой да панны, яшчэ сем начэй дыспутавалі, елі і пілі, адзін другому адказвалі і адзін у другога пыталі: што гэта такое, што не мае ні рук, ні ног, і без душы, а языкі два. Тое чуючы, многа людзей дзівілася яго мудрасці і навукі, і адзін другому паведалі: гэта пяро, якое піша слова божае. Пан Бог пяром пісаў "Ал-хемду", раздзел Карана. І яшчэ адзін другому казалі: "Што за пяць пажыткаў пан Бог стварыў, а тыя пажыткі нідзе не бачна, а тры ніколі сонца не бачылі. Гэта на дзень пяць намазаў. Летам і зімою волю божую спаўняць.

Сёмага дня да згоды прыйшлі. Кароль малайца зрабіў гаспада-

ром і сваім сынам, бо толькі адну дачку меў. Паны ўсе радавалі-ся, што такі вучоны і разумны чалавек. І зрабілі яго гаспадаром-каралём. Розныя людзі прыходзілі дзеля справядлівасці. Судзіў справядліва, убогім дапамагаў. Да бацькі і да маткі лісты пісаў, што ўжо з ласкі божае каралём і гаспадара зяцем стаў. Бацька і матка, тое ўчуўшы, пану Богу хвалу далі і зараз свайму пану казалі:

— Пане гаспадару! Той маладзец, які нас прадаў тваёй міласці, то наш сын. Прыйшла вестка, — дасталі лісты, паказалі гаспадару. — Пойдзем, калі нам дазволіш, да сына нашага.

— Гаспадар кажа:

— Я вам дарую і на божую дарогу вызвалю.

Тады яны гаспадарскія рукі цалавалі і выехалі ў дарогу, і прыехалі да сына свайго і там век свой скончылі.

## ДЕСЯТЫЙ ХАДИС

„... Из двух ближе Богу тот, кто вернее в дружбе; ... из двух ближе Богу тот, кто полезнее соседу...“

## الحديث العاشر

حديث عبدالله بن عمرو بن العاص رضي الله عنهما :
« خير الأصحاب عند الله خيرهم لصاحبه وخير
الجيران عند الله خيرهم لجاره » .

أحمد والترمذي والحاكم .
إسناده صحيح



Вядомы каталіцкі святар Язэп Германовіч нарадзіўся ў в. Гальшаны Ашмянскага раёна 4.3.1890 г. Памёр 26.12.1978 г. ў ЗША. Таленавіты беларускі паэт і перакладчык /літаратурны псеўданім — Вінцук Адважны/. У 1973 г. ў Лондане выйшла ў свет яго кніга "Байкі і іншыя вершы. Частка першая і другая". Сярод іншых у гэтай кнізе надрукавана татарская легенда з кнігі Аль-Кітаб, напісанай арабскімі літарамі па-беларуску. Вінцук Адважны зрабіў літаратурную апрацоўку легенды і напісаў яе вершам.

МАЙСЕЙ ПЫТАЕ

/Татарская легенда/

Раз Майсей вялікім сьвятам
Гаманіў, як з бацькам, з братам, —
З Самым Богам на Сынаі,
Дый пытае:
— Божа, Ты шмат працы маеш,
Калі сьвет увесь трымаеш:
Ці Ты сьпіш калі хвілінку —
Па абедзе хоць гадзінку? —
Ці на момант супачынеш,
Браму неба як зачыніш?.. —

Бог ледзь-чутку усьміхнуўся,
А Майсей ажно жахнуўся!
Ён спужаўся, мала-многа,
Што залішне пытаў Бога.
КАЖА БОГ: — Ды ты не бойся —
Супакойся!
Як-жа буду Я драмаці,
А хто будзе сьвет трымаці?
Зблудзяць зоркі дый камэты —
Зробяць самі канец сьвету... —

МАЙСЕЙ:

— Божа, у Цябе анёлаў процьма! —

КАЖА БОГ:

— Так, але-ж і чэрцяў процьма!
Зло з дабром пачне змаганьне —
Пойдзе ў сьвеце замяшаньне:

МАЙСЕЙ:

— Божа, як цярплівасьць маеш?
Скажы, колькі усіх трымаеш?

КАЖА БОГ:

Скажу толькі пад сакрэтам,
Але помні — тайна ў гэтым! —
Добрых духаў— легіёнаў —
Сто на сто — мільён мільёнаў,
Апрача сьвятых-прачыстых
Хэрувіма ў залацістых,
Сэрафінаў прамяністых.
А злых духаў — гэных дрэняў —
Трэця частка — можа й меней...

МАЙСЕЙ:

— Божа, хто палічыць столькі? —

Майсей доўга быў у задуме —
Аж блудзіў у мысьляў тлуме —
У лябірынце тым таёмным,
Як мурашка ў лесе цёмным! —

ПОСЬЛЕ КАЖА:

— Божа, я, як жыд, цікавы,
Зноў спытаю: нашы справы
Цябе мучаць бяз прыпынку —
Табе-ж трэба й адпачынку?.. —



КАЖА БОГ:

— Зноў пытаеш? Гэта значыць —
Трэ' даць прыклад: будзем бачыць,
Хоць душа твая набожна!
Што спаць Мне ніяк ня можна! —

Бог Майсею сцэну ладзіць:
Перш яго на камень садзіць,
Тады й кажа: — Для навукі
Дам табе дзьве шклянкі ў рукі.
Я наліў у кажну чару
Найчысьцейшага нэктару,
Што сьвятыя п'юць у небе,
Як жывуць на маім хлебе. —

*

Бог пайшоў. Майсей трымае
Шклянкі дзьве. Ён уважае —
Аж дрыжыць!
Каб ні кроплі не разьліць?..
Раптам чуе... — Ой, што значыць? —
Адчыняе вочы — бачыць —
Няма шклянак у руках!
А ў душы — вялізны страх!..

КАЖА БОГ:

— А дзе шклянкі ты падзеў?
Нэктар выпіў... а шкло — зьеў? —

МАЙСЕЙ:

— Божа, літасьцівы багаты!
Я-ж наўкола вінаваты:
Мушу шчыра я прызнацца,

Бо не траплю апраўдацца. —
Я ня ўмеу служыць ахвярна —
Твой загад праспаў я марна... —

КАЖА БОГ:
— Бачыш ты ў здарэньні гэтым,
Што было-бы з цэлым сьветам,
Каб Бог спаць хвілінку мог,
Ці задрамнуць сабе прылёг? —

Розум з сілай дзеяць вінны —
Спаць ніколі не павінны! —

*

Майсей добра пракануўся —
Пра нішто больш не пытаўся.
Як з гары ішоў, на хаду
Скубаў толькі бараду...

## ТРИНАДЦАТЫЙ ХАДИС

„... Теряет и проигрывает тот, в сердце которого Бог не вложил милосердие к людям..."

الحديث الثالث عشر

حديث عمرو بن حبيب رضي الله عنه :

« خاب عبد وخسر لم يجعل الله تعالى في قلبه رحمة للبشر ».



## КРЫМСКАТАТАРСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ

### О кимнинъ къызы 111 Что это за девушка




Шу кельген кимнинъ къызы —
Фистаны бар ал къырмызы,
Янагъында гулю бар,
Сандым саба йылдызы. ] *2 кере*

Насыл ашыкъ олмайым —
Ал янагъы гуль киби.
Насыл гонъюль бермейим —
Къираз дудагъы бал киби. ] *2 кере*

Гуль тубюнден кечерсинъ —
Кене тюштим ашыкъкъа мен.
Бу кетиш бойле кетерсе,
Достлар, яндым нара мен. ] *2 кере*

Что это за девушка идет —
Платье ярко-красное,
Щечки, как розы, цветут,
И сама подобна утренней звезде. ] *2 раза*

Как же мне не влюбиться —
Щеки алые, как розы,
Почему ей сердце не отдать —
Губки — черешни, как мед. ] *2 раза*

По аллее роз ты проходишь,
И вновь пленен я тобою.
Если и дальше так будет,
Друзья, сгорю я в огне. ] *2 раза*

### Ай догъмадан 122 Перед восходом луны



Ай догъмадан догъар, а джаным,
Айнынъ йылдызы,
Нерелерде къалдынъ,
Кельмез олдынъ, ал гуллеринъ къызы?

Перед восходом луны, о милая,
Сверкает звездочка.
Куда ты исчезла,
Не появляешься, дочь алых цветов? ] *2 раза*

## НАМ ПІШУЦЬ

З пісьма Асана Асанава, члена Алмалыкскай /Ташкенцкая вобл., Узбекістан/ групы крымскататарскага нацыянальнага руху ад II.01.1991 г.

... У крымскататарскай газеце "Ленин байрагы" /Новая назва "Яны дюнье"/ быў апублікаваны артыкул пра аб'яднанне беларускіх татараў "Аль-Кітаб". Гэты матэрыял мы абмеркавалі на чарговым зборы Алмалыкскай ініцыятыўнай групы і вырашылі аказаць невялікую матэрыяльную дапамогу — 50 р. Аб аказанні вам дапамогі мы звернемся да нашых старэйшых людзей, муллы, у абласную ініцыятыўную групу. Калі будзе дазвол начальства на правядзенне агульнагарадскога сходу крымскіх татар, то ў парадак дня мы ўключым пытанне пра аказанне дапамогі "Аль-Кітабу".

Наша ініцыятыўная група пачала сваю дзейнасць як часцінка нацыянальнага руху ў 50-я гады. У сучасны момант большасць членаў нашай групы складаюць людзі, якія нарадзіліся ў месцах дэпартацыі. Наша мэта — хутчэй вярнуцца ў Крым на радзіму продкаў і ўзнавіць сваю дзяржаўнасць. Хоць у матэрыяльных адносінах мы не самыя бедныя людзі ва Узбекістане, хоць рэлігія наша такая самая як у узбекаў, але трэба вяртацца дамоў. Гэта дасць нам магчымасць пазбегнуць асіміляцыі — страты роднай мовы і культуры. Нават у сем'ях большасць крымскіх татараў размаўляюць ужо не на роднай мове. Трэба хутчэй ратаваць свае родныя карані, пакуль яны яшчэ не высахлі. Нягледзячы на моцнае супраціўленне улад у Крыме нашы татары прыязджаюць на радзіму, селяцца там у палатках, зямлянках, жывуць без вады, электрычнасці, але іншага выйсця няма. Нашы татары ў Алмалыку прымаюць удзел ва ўсіх мітынгах, дэманстрацыях за права вярнуцца на Радзіму, прымаюць удзел у розных акцыях у Чырчыку, Ташкенце, Маскве, у Крыме. Мы патрабуем ад улад вызвалення палітычных вязняў і хутчэйшага вырашэння крымскататарскай праблемы. Усё ж нейкія змены да лепшага адбываюцца. Нам удалося ўстанавіць сувязь з



нашымі супляменнікамі, якія пакінулі Крым у 18-м, 19- і у пачатку 20-га стагоддзя, а цяпер жывуць у краінах Азіі, Амерыкі і Заходняй Еўропы. Мы цешымся тым, што яны не забылі сваю радзіму, свой народ.

Вясной 1991 г. ў Крыме будзе курултай /з'езд/ крымскататарскага народу. Цяпер ідзе падрыхтоўка да гэтай падзеі ва ўсіх рэгіёнах, дзе жывуць крымскія татары. Як вы адносіцеся да з'езду? Мы лічым, што вы такія ж крымскія татары, як і мы, але па волі лёсу адарваныя ад радзімы продкаў ужо многа соцень год. Каб мы пражылі столькі ж год ва Узбекістане або ў Румыніі, то нас называлі б узбекскімі, румынскімі татарамі.

На шостай Усесаюзнай нарадзе арганізацыі крымскататарскага нацыянальнага руху, якая адбылася ў канцы красавіка — пачатку мая 1990 г. у сяле Заланкой Бахчысарайскага раёна былі прадстаўнікі літоўскіх татараў і татараў з Беларусі /І.І. Мемятаў і М.М. Багдановіч/. Мы спадзяемся, што нашы сувязі будуць мацнець. Усе татары, якія лічаць Крым сваёй радзімай, могуць і павінны прыняць удзел у курултаі ў 1991 г.

З пісьма: "Прывітанне беларускім татарам! 25 р. гэта невялікія грошы, але ці не гаворыць гэта аб тым, што справа, якую вы робіце — гэта наша агульная справа. Вялікі вам дзякуй. Сагълукманкъал". Краснадарскі край, г. Абінск, перавулак Южны, д.6.

З пісьма у адказ: "Дарагія супляменнікі! Татары Беларусі, якія ўваходзяць у грамадска-культурнае аб'яднанне "Аль-Кітаб" вельмі ўдзячны Вам за маральную і матэрыяльную падтрымку, якую Вы нам аказалі. Вашы грошы пойдуць на выдавецкую дзейнасць нашага грамадства — выпуск татарскай і мусульманскай літаратуры.

Праўленне Мінскага абласнога татарскага
аб'яднання "Аль-Кітаб".

## З ТАТАРСКАЙ КУХНІ

Б а у р с а к. На І кг пшанічнай мукі бяруць: І0 яец, І00 г цукру, 40—60 г масла або смятаны, І кг масла для выпечкі. На малацэ, яйках, смятане ці масле, цукру і солі замясіць цеста. Яно павінна быць мякчэй за цеста для дамашняй локшыны /лапшы/. Бяруць цеста невялікімі кавалкамі па І00—І50 г, качаюць каўбаску, затым наразаюць кавалачкамі велічынёй з лясны арэх. Кладуць кавалачкі на патэльню з распушчаным маслам і смажаць на звычайнай, газавай або электрычнай пліце. Падаецца на стол у халодным стане.

Г а л ь м а. На І кг пшанічнай мукі бяруць: І кг масла і І кг мёду. Масла распускаюць у каструлі і на пліце на слабым агні кіпяцяць І0—І5 мінут, затым малымі порцыямі дабаўляюць муку, на працягу 40—45 мінут перамешваюць драўлянай лыжкай ці драўлянай лапатачкай да такога стану, каб баўтушка свабодна сцякала з лыжкі. Каструлю здымаюць з пліты, уліваюць у баўтушку мёд і доўга перамешваюць лыжкай, пакуль сумесь не саб"ецца ў ком і не стане свабодна адставаць ад сценак каструлі. На змочаную вадой кухонную даску кладуць цеста і раскачваюць яго ў блін таўшчынёй І—2 см. Часцей за ўсё яму прыдаюць форму ромба, а пасля застывання разразаюць нажом на кавалачкі ў форме ромбікаў. Калі гальма прызначана для раздачы садагі /а так найчасцей і бывае ў татараў/, то павінен быць 4І ромбік /што такое садага, якая чыніцца над ёй малітва гл. спецыяльны артыкул у нашым квартальніку/.

ЗМЕСТ

## СОДЕРЖАНИЕ



## МУНДЕРИНДЖЕ

CONTENTS



الفهرس